Жыве Беларусь!



# БЕЛАРУС

Address: P. O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.

№ 518 Сакавік 2006
Год выданьня 56

## Рада Беларускай Народнай Рэспублікі



### Прэзыдыюм

## Зварот да беларускага народу

Атаўская газэта *The Ottawa Citizen* перадрукавала 10 сакавіка сёлета артыкул Жэрэмі Пэйджа з *London Times* пад загалоўкам "Страх ахапіў Беларусь напярэдадні выбараў".

І тут мне прыпомніліся словы Папы Яна Паўла Другога да польскага народу. "НЯ БОЙЦЕСЯ" — казаў ён. Словы гэтыя мелі велізарны водгук, і ім заўдзячваецца шматлікімі аналіткамі перамога "Салідарнасьці" супраць нялюдзкага рэжыму.

Усе тыраніі, усе дыктатуры абапіраюцца на страх. Страхам апраўдваюцца так званыя "моцныя" рэжымы, бо-ж, маўляў, толькі "моцны" правадыр можа абараніць народ ад нутраных і вонкавых ворагаў. Калі-ж ворагаў няма, трэба іх прыдумаць. Так былі прыдуманыя "страшны" Захад, "агрэсыўная" Амэрыка ды й найгоршыя з найгоршых — нашыя ўласныя "нацыяналісты".

У адсутнасьці аб'ектыўнай інфармацыі людзям ня бачна, што ўся гэтая прапаганда, якой прамываюцца іх мазгі ад часоў Сталіна, ня мае іншай мэты, як зрабіць зь іх застрашаных нявольнікаў, якія будуць працягваць казаць, як нашыя дарагія бабулькі — "абы вайны не было". Тыран Сталін зьнішчыў дваццаць мільёнаў нявінных людзей пад тлумачэньнем, што ён зьнішчае "ворагаў народу". Новы кандыдат на гэтую ролю, Аляксандар Лукашэнка, які трымае ў сваіх руках уладу дзякуючы наступнікам Сталіна, карыстаецца тымі самымі аргумэнтамі. Нават назоў "бацька", які дыктатар прысвоіў, сьведчыць пра такія намеры. Ён, маўляў, мусіць быць жорсткім "бацькам", каб абараніць "нашую Беларусь" ад усіх ворагаў, уключна зь яе дэмакратычнай апазцыяй.

Жорсткасьць гэтая дазваляе яму гвалціць абсалютова ўсе людзкія правы — нават тыя, якімі наш народ карыстаўся яшчэ ў шаснаццатым стагодзьдзі, калі ён быў адным з найбольш цывілізаваных народаў Эўропы. Сёньня забараняецца чытаць вольную прэсу, канфіскуецца выбарчы матар'ял, арыштоўваюцца патрыёты, якія змагаюцца не за ўладу, а за лепшую долю свайго народу, з абараняюцца мітынгі выбаршчыкаў, канкурэнты Лукашэнкі не дапускаюцца да СМІ і зьбіваюцца.

Дыктатар спадзяецца, што застрашаны люд даверыць яму яшчэ пяць гадоў улады і дазволіць закончыць сваё здрадніцкае жаданьне — адаць наш край у няволю. Гэта ўважаю найбольшай небясьпекай для будучыні Беларусі. Калі Лукашэнка здолее зьдзейсьніць сваю задуму "саюзу з Расеяй", дзяржава нашая перастане існаваць, як яна перастала існаваць пасля першага аншлюсу яе ў Расейскую імпэрыю ў 1795 годзе.

Дарагія суродзічы, Вы маеце права, які ўсе людзі, жыць спакойна і шчасьліва ў сваёй уласнай дзяржаве, бяз страху, без тэрору. Вы маеце права працаваць самыя на сябе, на сваіх дзетак, на сваіх унукаў. Вашыя суседзі прайшлі ўжо шлях да нармальнага стану жыцьця. Усе яны гатовыя вам дапамагчы. Адзін толькі сусед Вам дабра не жадае, бо калі-б жадаў, не падтрымоўваў-бы дыктатара Лукашэнку.

Дык паўтару словы Папы Яна Паўла Другога — НЯ БОЙЦЕСЯ!

Не давайце нікому адабраць у Вас Ваш голас. Не апускайце рук. Пакажыце сьвету сваю чалавечую годнасьць, каб Дзень 25-га Сакавіка стаўся назаўсёды ўсебеларускім Днём Волі.

Жыве Беларусь!

***Івонка СУРВІЛЛА, Старшыня Рады БНР***

## Рада Беларускай Народнай Рэспублікі



### Прэзыдыюм

## Сакавіковае прывітаньне

**Дарагія Суродзічы-Беларусы на чужыне!**

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі віншую Вас з нашым вялікім нацыянальным сьвятам, нашым Днём Волі, Днём Сакавіка, калі 25 сакавіка 1918 году беларускі народ абвесьціў незалежнасьць сваёй дзяржавы — Беларускай Народнай Рэспублікі.

Нашае нацыянальнае сьвята амаль супадае сёлета з прэзыдэнцкімі выбарамі ў Беларусі. Таму ў маім сёлетнім звароце да Беларускага Народу я вырашыла прысьвяціць маю ўвагу страху, які, як гэта піша брытанскі журналіст Джэрэмі Пэйдж, "ахапіў Беларусь у гэты перадвыбарчы час".

Нам, безумоўна, ведама, што страх пануе ў псыхіцы бальшыні нашых людзей на Бацькаўшчыне ад сталінскіх часоў. І ад яго ніяк ня можна пазбавіцца нават новая хваля эмігрантаў зь Беларусі, якія яшчэ ўсё баяцца палітыкі. Але страх набыў сапраўды нязвычайныя памеры ў гэтыя апошнія тыдні. Дыктатар хоча, каб застрашаны люд даў яму яшчэ пяць гадоў улады ды дазволіў такім чынам зьдзейсьніць сваю першасную задуму саюзу з Расеяй. Гэта той шлях, які ён выбраў для свайго народу, і дзеля якога ён гатовы "змагацца са зброяй", каб не дазволіць нікому яго зьмяніць,

Дарагія Суродзічы, нам усім таксама ведама, што калі Аляксандру Лукашэнку ўдасца зьдзейсьніць гэтую задуму, дзяржава нашая перастане існаваць, так як яна канчальна перастала існаваць у 1795 годзе, калі рэшту беларускай тэрыторыі Кацярына II ўключыла ў склад свае імпэрыі.

Хоць доля нашага краю залежыць перш-наперш ад беларускага народу на Бацькаўшчыне, але мы ў дыяспары можам яму памагчы ў ягоным змаганьні за волю. Нашая дапамога неабходная. Кожны з нас можа спрычыніцца да канчатковай перамогі, бо, як казаў Уладзімер Караткевіч, "і адзін можа". Балты й палякі здабывалі незалежнасьць падчас Першай сусьветнай вайны адзінкамі. Яны мелі дастаткова сяброў між палітыкаў тых часоў, каб дамагчыся незалежнасьці для сваіх народаў. Мы тады саюзьнікаў яшчэ ня мелі, і таму змаганьне нашае доўжыцца сёньня.

Цяпер затое было-б недапушчальна страціць нашую дзяржаўнасьць. Нас сотні тысячаў на чужыне. Мы — грамадзяне краінаў, у якіх мы жывём, мы маем права на голас. Кожны з нас мае доступ да палітыкаў. Калі мы "выйдзем шчыльнымі радамі", нас паслухаюць, не дазволяць новага паняволеньня нашага народу.

У гэты перадвыбарчы пэрыяд абавязак кожнага беларуса — дапамагчы сваім суродзічам — сваім братом і сёстрам — на Бацькаўшчыне. Бярэце ўдзел ува ўсіх мерапрыемствах, якія арганізуюцца ў падтрымку назалежнасьці й дэмакратыі ў Беларусі. Кантактуйце Вашых дэпутатаў ці кангрэсмэнаў, дэманструйце, пішэце лісты. Кантактуйцеся з Вашымі крэўнымі ў Беларусі, каб яны зразумелі, што пэрыяд гэты вырашальны. Кроплі могуць расколоць камень! Але бязь іх камень не расколецца.

Дык да працы, дарагія Суродзічы. Жыцьцё Рэспублікі сваёй мы можам адрадзіць без "крывавых мукаў". Але не адродзім яго злажыўшы рукі.

Жыве Беларусь!

***Івонка СУРВІЛЛА, Старшыня Рады БНР***

# Сьмех – зброя дэмакратыі

Шэраг цэнтральнаэўрапейскіх газэтаў (польская "Gazeta Wyborcza", чэская "Lidove Noviny", мадзярская "Magyar Hirlap", славацкая "Sme") надрукавалі 27 лютага сёлета карыкатуры на А. Лукашэнку ў знак салідарнасьці з аўтарамі малюнкаў і мультфільмаў пра беларускага дыктатара, якім пагражае турэмнае зьняволеньне.

Сатырычныя малюнкі й мультфільмы былі зьмешчаныя на інтэрнэт-старонцы адной зь беларускіх маладзёвых ініцыятываў. Іх зьяўленьне стала прычынаю для ўзбуджэньня крымінальнай справы супраць іх аўтараў за абразу прэзыдэнта. Справа гэтая цягнецца з жніўня мінулага году, і некаторыя з аўтараў, хаваючыся ад перасьледу, былі вымушаныя пакінуць Беларусь.

Для газэтаў, падтрымаўшых гэтую акцыю, гісторыя зь беларускімі мультыплікатарамі стала яшчэ адною нагодаю прыцягнуць увагу



Кадр з мультфільму.

сваіх чытачоў і ўсяго эўрапейскага грамадзтва, да тых праблемаў, якія актуальныя сёньня ў Беларусі, і ў першую чаргу да праблемы свабоды слова.



Карыкатура з газэты "SME".



Карыкатура з газэты Magyar Hirlap.

# Міжнародны часапіс модаў пра Беларусь




Ніколі міжнародны друк не пісаў гэтульки пра Беларусь, як пошнім часам. І найчасьцей у адмоўным сэнсе. Пра паліцыйны характар беларускага рэжыму даведаліся сярод іншых і чытачы папулярнага месячніка модаў Marie Claire (сакавіковы нумар).

Часапіс Marie Claire шырока папулярны. Выходзіць ён у розных краінах, мае 25 міжнародных выданьняў. Ягоны наклад у Вялікабрытаніі, прыкладам, 360 тыс. асобнікаў, у ЗША – 940 тыс. Агульная колькасьць чытачоў па цэлым сьвеце 21 мільён.

У сакавіковым нумары часапісу зьмешчаны артыкул Сьвятланы Кольчык з гэткім загалоўкам і падзагалоўкам: "Гэтых звышмадэлек шукае сакрэтная паліцыя. Іхнае злачынства? Прыгожым мадэлькам у Беларусі, былой савецкай рэспубліцы, больш не дазваляюць выяжджаць з краіны, а тых, хто хоча ехаць, будзе дапытваць сакрэтная паліцыя – што яшчэ ўсё завецца КГБ." Артыкул ілюстраваны здымкамі мадэлек, а пад загалоўкам – фатаграфіяй Лукашэнкі з падятым кулаком і зацятым выразам твару.

Карэспандэнтка дае змрочны малюнак беларускай рэчаіснасьці ды апісвае цяжкасьці, перад якімі стаяць менскія агенцтвы, што займаюцца працоўнымі кантрактамі для мадэлек, якія хацелі-б выехаць на працу за межы краіны.

(Я.З.)

# Прэзыдэнт ЗША сустрэўся з С. Завадзкай і І. Красоўскай

*Радыё Свабода.* У Вашынгтоне, у Белым Доме, адбылася сустрэча прэзыдэнта ЗША Джорджа Буша з Сьвятланай Завадзкай і Ірынай Красоўскай, жонкамі зьніклых беларускіх апазыцыянэраў. "Прэзыдэнт імкнецца падкрэсьліць сваю асабістую падтрымку іх высілкам дамагчыся правасудзьдзя ў справах зьніклых, таксама, як і высілкам усіх тых, хто імкнецца вярнуць свабоду ў Беларусь", — заявіў па выніках сустрэчы прэсавы сакратар прэзыдэнта ЗША Скот Маклэлан. "Усім дэмакратычным сілам Беларусі гэта надае сілы, мужнасьць і веру ў тое, што мы пераможам", — сказала на прэсавай канфэрэнцыі Сьвятлана Завадзкая.

Сустрэча працягвалася больш запланаванага часу і мела даволі нефармальны характар. Прэзыдэнт Буш цікавіўся тым, якая сытуацыя цяпер склалася ў Беларусі, задаваў пытаньні пра палітычныя рэпрэсіі й прэзыдэнцкія выбары.

Ірына і Сьвятлана адзначылі, што гэта была адная з самых яркіх сустрэчаў у іхным жыцьці, і яна азначае вялікую падтрымку ня толькі для іх асабіста, але для ўсіх дэмакратычных актывістаў Беларусі.

На выхадзе, пасьля сустрэчы з Бушам, Сьвятлану і Ірыну чакалі больш як дзясятак журналістаў. Сярод іншых прысутнічалі прадстаўнікі "ЭнБі-Сі", "Сі-Эн-Эн", "Радыё Свабода", "Голасу Амэрыкі" ды іншых амэрыканскіх і міжнародных СМІ. Яны задавалі пытаньні пра сытуацыю ў Беларусі напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў, пра тое, якой дапамогі чакаюць дэмакратычныя актывісты ў Беларусі з боку міжнароднай супольнасьці.

Ірына з Сьвятланай падкрэсьлілі, што любая міжнародная падтрымка зьяўляецца цяпер вельмі важнай для Беларусі, а асабліва падтрымка на такім высокім узроўні – асабіста ад амэрыканскага прэзыдэнта".

# Мастак Нік КАСЬЦЮК – апякун беларускіх сіротаў

Родам з Саўт-Рывэру, сын беларускіх імігрантаў, 41-гадовы Мікалай (Нік) Касьцюк здабыў сабе славу ня толькі як мастак, але й як дабрадзей-апякун сіротаў у Беларусі. Пра ягоную мастацкую творчасьць і апантанасьць справаю дапамогі беларускім сіротам расказаў каліфарнійскі часапіс *Southwest Art* у сёлетнім лютаўскім нумары.

Нік Касьцюк (Nick Kosciuk), які жыве ў горадзе Камбрыя ў цэнтральнай Каліфорніі, адкрыў для сябе цэлы сьвет сіроцкай дзіцячай адзіноты. Здарылася гэта некалькі гадоў таму, калі ён упершыню наведаў краіну сваіх бацькоў і дзядоў. Паехаў ён туды, каб разьвеяць свой душэўна нялёгкі стан у выніку разводу. Магчыма, якраз гэтая акалічнасьць сталася дадатковым стымулам да ягонай чульлівасьці на чужое гора. За апошнія гады ён ужо 12 разоў наведаў Беларусь, куды завозіць зароблены сваім мастацтвам грошы й ахвяроўвае іх на сіротнікі. Там-жа, узброены фатаапаратам, ён чэрпае тэматыку й натхненьне для сваіх новых малюнкаў рэалістычнага пляну. На іх ён паказвае самотных дзяўчатак, якім не стае сямейнага цяпла. Ягоныя пэрсанажы, з крыламі матылькоў за плячыма, з тужлівымі вачыма, тулячыся адна да аднае, пазіраюць у прагным жаданьні мацярынскай ласкі. Малюнкі Ніка Касьцюка, прасякнутыя глыбокім адчуваньнем дзіцячага гора, знаходзяць сваіх пакупнікоў і даюць мастаку сродкі выконваць высакародную місію ў Беларусі. Касьцюкова 15-гадовая дачка Эмілія і 13-гадовы сын Кальвін цікавяцца бацькавай справай і самі бяруць у ёй удзел. Эмілія вяжа шалікі для беларускіх сіротаў, Кальвін ахвяраваў на дапамогу ім частку сваіх ашчаджэньняў. Бацька спадзяецца наведаць сёлета Беларусь разам са сваімі дзецьмі.

Аўтарка артыкулу пра Ніка Касьцюка Боні Гангельгоф, дае таксама кароткую інфармацыю пра Беларусь, апісвае Ніка-вы раньнія гады ў беларускай грамадзе ў Саўт-Рывэры, штат Нью-Джэрзі. Туды ў 1950 годзе прыбылі зь Нямеччыны ягоныя дзяды й бацькі. Ад іх ён чуў пра далёкую краіну-Беларусь, але ў сваім малым веку не цікавіўся ёю, хочучы быць проста амэрыканцам. Аднак з часам прыйшло зацікаўленьне краінай бацькоў. Наведваючы яе, ён знайшоў там ня толькі багатую тэматыку для свае творчасьці, але й новае каханьне, якое дае яму цяпер дадатковы імпульс для далейшае творчасьці й высакароднае дабрадзейнасьці. Артыкул канчаецца ягоным выказваньнем: "Я дзіву даюся, як павярнулася маё жыцьцё ды чым я зарабляю на хлеб. Ніколі ня буду шкадаваць, як я жыў. Маляваньне для мяне было ўсім. Але цяпер яно сталася толькі сродкам падтрымкі мяне і сіротаў. Кім я ёсьць ды што я раблю, зьдзяйсьняецца ў Беларусі".

**Янка ЗАПРУДНІК**

На здымку: карціна Ніка Касьцюка "Анастасія зь сяброўкай".





Др. Галіна Варанцова зь сяброкаю Вольгаю – арганізатаркі беларускага стэнду на славянскім фэстывалі ў горадзе Рочэстэры, штат Мінэсота, у верасьні 2005 году.

# Народнае галасаваньне – шанец перамогі

Аўтарытарным прамаскоўскім рэжымам у Беларусі створаная дзяржаўная фальсыфікацыйная сыстэма галасаваньня і правядзеньня выбараў. Сутнасьць яе палягае на поўным кантролі над дзейнасьцю ўсіх выбарчых камісіяў і на поўнай залежнасьці ўсіх чальцоў гэтых камісіяў ад адміністрацыі ўлады (склад камісіяў фармуе рэжым). Апазыцыйна настроеных да рэжыму асобаў у камісіі не дапускаюць. У 2004 годзе ў час выбараў і незаконнага рэфэрэндуму фальсыфікацыйная машына галасаваньня прадэманстравала сваю таталітарнасьць: галасы нават не падлічвалі; чальцы камісіі падпісвалі заранёў складзеныя адміністрацыяй улады пратаколы галасаваньня з патрэбнымі для рэжыму вынікамі.

У гэтых умовах удзел у галасаваньні альтэрнатыўна настроеных кандыдатаў робіцца бессэнсоўным і толькі спрыяе бачнасьці "дэмакратычных" выбараў, на практыцы – спрыяе рэжыму. Становішча выглядае тупіковым.

Намі, Беларускім Народным Фронтам і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыяй – БНФ, ініцыятывай *"Беларуская Салідарнасьць"* прапанаваны і прыняты да дзеяньня мэтад **Народнага галасаваньня**, які дазваляе цалкам на падставе Канстытуцыі й Закону заблякаваць фальсыфікацыйную машыну выбараў.

**Тэхналёгія мэтаду:** выбаршчык бярэ бюлетэнь для галасаваньня на выбарчым участку, расьпісваецца ў сьпісе выбаршчыкаў і ідзе ў кабіну для тайнага галасаваньня. У кабіне бюлетэнь рэжыму ён кладзе ў кішэнь, а ў скрыню для галасаваньня кідае свой Народны бюлетэнь – чысты ліст паперы, на якім піша прозьвішча кандыдата, за якога галасуе, альбо ня піша нічога.

Пасьля галасаваньня выбаршчык перадае афіцыйны бюлетэнь у Нацыянальную Грамадзкую Камісію (НГК), якая ўсё падлічвае і складае пратакол. Усе дзеяньні цалкам пагрунтаваныя на заканадаўстве.

**У выніку** – Народны бюлетэнь выбаршчыка будзе **ўлічаны** выбарчай камісіяй як ***несапраўдны***, а выбаршчык будзе мець на руках дакумэнтальнае пасьведчаньне свайго альтэрнатыўнага галасаваньня (не за Лукашэнку) – афіцыйны бюлетэнь з гербавай пячаткай і подпісамі чальцоў выбарчай камісіі.

**Фальсыфікацыя і маніпуляцыя галасамі ў гэтым выпадку будзе заблякаваная.** (Фальсыфікатары ня змогуць укінуць у скрыню свае бюлетэні ці іншым чынам зманіпуляваць галасы, бо іхняя маніпуляцыя будзе **дакумэнтальна** выкрытая і даказаная). І калі НГК зьбярэ, напрыклад, больш 50 адсоткаў афіцыйных бюлетэняў выбаршчыкаў, гэта будзе азначаць неабвержны народны імпічмэнт Лукашэнку. Але відавочна, што для правальваньня рэжыму дастаткова будзе меншая колькасьць бюлетэняў.

Такім чынам Народнае галасаваньне патрэбнае для таго, каб законна выкінуць Лукашэнку з выбарчага працэсу. Другі этап – дэмакратычныя выбары прэзыдэнта Беларусі, рашэньне аб якіх можа прыняць Беларускі Часовы ўрад (у залежнасьці ад абставінаў, бо падзеі аднострацца).

***

Як выглядае цяпер рэальная сытуацыя? Да сярэдзіны студзеня рэжым усьвядоміў небясьпеку Народнага галасаваньня і маю ролю ў гэтай справе. 18 студзеня (як раз, калі мы дасягнулі ўжо 100 тысячаў подпісаў) Цэнтральная Выбарчая Камісія (ЦВК) прад'явіла мне другое афіцыйнае папярэджаньне ва ўльтыматыўнай форме, дзе было заяўлена, што сабраныя за мяне подпісы ЦВК не прызнае з прычыны распаўсюджаньня намі інфармацыі пра Народнае галасаваньне, якое ЦВК кваліфікуе як "агітацыю". Усе астатнія дні мае групы зборшчыкаў рэгулярна арыштоўвала міліцыя; пратаколы затрыманьня адсылалі ў ЦВК. Стала зразумела, што рэгістраваць маю кандыдатуру ня будуць, а людзей, што за мяне падпісаліся на подпісных лістах (там іхныя адрасы і нумары пашпартоў) будуць перасьледваць. Паколькі маю кандыдатуру заблякавалі (і, зразумела, мяне ня пусьцяць у Беларусь), мы прынялі рашэньне зьберагчы нашых прыхільнікаў і не здаваць падпісныя лісты (135 тысячаў) ў ЦВК.

У пачатку лютага створаная Нацыянальная Грамадзкая Камісія і яе структуры. Падрыхтаваны Статут НГК, працягваецца інфармацыйная праца па Народным галасаваньні. Дзейнасьць сканцэнтраваная ў Менску і вялікіх гарадох. Праведзеныя фармальныя перамовы з камандамі кандыдатаў (акрамя Гайдукевіча). Народнае галасаваньне падтрымаў А. Вайтовіч. Ні Мілінкевіч, ні Казулін, якіх фінансуе Масква дзеля дэмакратычнага антуражу выбараў (што па задуме выгадна і Лукашэнку), ня здольныя былі на самастойныя дзеяньні й не падтрымалі Народнае галасаваньне.

Цяпер найбольшая перашкода для Народнага галасаваньня – гэта абмежаванасьць інфармацыі. Народны Фронт заўсёды абапіраўся толькі на свой народ. Народнае галасаваньне, як паветра патрабуе шырокай вядомасьці. Там, дзе беларусы знаёмяцца з народнай канцэпцыяй галасаваньня – там адразу становяцца на яе бок.

***Зянон ПАЗЬНЯК***
***Старшыня БНФ "Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі БНФ***

# Беларусы памятаюць Кастуся

**У пачатку лютага ў менскім фальварку "Добрыя мыслі" беларуская грамадзкасьць адзначыла 168-я ўгодкі зь дня нараджэньня рэвалюцыянера-дэмакрата, паэта і публіцыста, аднаго зь кіраўнікоў паўстаньня 1863-64 гадоў Кастуся Каліноўскага.**

Нагодаю для ўрачыстага збору прадстаўнікоў сталічнай інтэлігенцыі, грамадзкіх арганізацыяў і творчых суполак, партый і палітычных рухаў стала адрыцьцё мастацкай выставы, прысьвечанай Кастусю Каліноўскаму. Ініцыятарам гэтай мэмарыяльнай імпрэзы выступіў ўдзельнікі мастацкай суполкі "Пагоня" пры падтрымцы культурна-асьветніцкага клюбу "Спадчына".

Мастацкая экспазыцыя, што адкрылася ў фальварку "Добрыя мыслі", сапраўды неардынарная для сёньняшняй Беларусі зьява, бо на яе стэндах прадстаўленыя ўнікальныя экспанаты: карціны і эцюды мастакоў-клясыкаў выяўленчага мастацтва Беларусі М. Філіповіча, П. Сергіевіча, М. Сеўрука, а таксама, творы нашых сучасьнікаў: А. Кашкурэвіча, А. Марачкіна, Я. Куліка, М. Купавы, В. Маркаўца, А. Цыркунова, Ф. Янушкевіча, плякаты У. Крукоўскага. Усе творы тэматычна прысьвечаныя К. Каліноўскаму і паўстаньню 1863-64 гадоў. Наведвальнікі фальварку "Добрыя мыслі" мелі магчымасьць пазнаёміцца з гэтымі мастацкімі палотнамі і яшчэ раз адчуць маштаб асобы К. Каліноўскага і веліч ягонага чыну.

Вядучы мэмарыяльнай вечарыны мастак М. Купава падрабязна нагадаў у гэты памятны для ўсіх беларусаў дзень біяграфічныя зьвесткі пра жыцьцё і змаганьне Кастуся Каліноўскага. Спадар Купава адзначыў таксама вялікі ўнёсак, які зрабілі беларускія мастакі ў справу вяртаньня гэтага імя ў кантэкст беларускай гісторыі і культуры. Вядомы беларускі дасьледчык, прафэсар Адам Мальдзіс успомніў невядомыя акалічнасьці напісаньня верша "Восень пасярод зімы", пратагупам галоўнага героя якой стаў Кастусь Каліноўскі...

Старшыня клюбу "Спадчына" Анатоль Белы ўзгадаў пра тое, зь якой цяжкасьцю даводзілася ўпершыню арганізоўваць мастацкія выставы, прысьвечаныя К. Каліноўскаму. Таксама сябры клюбу "Спадчына" паэты Я. Гучок, У. Пецюкевіч чыталі свае пранікнёныя вершы, што яны прысьвяцілі Кастусю Каліноўскаму – Гаспадару з-пад Вільні...

Удзельнікі вечарыны адзначалі, што гераічная постаць Кастуся Каліноўскага засёды будзе ў гісторыі Беларусі самым яскравым прыкладам служэньня Радзіме, мужнага змаганьня за незалежную, дэмакратычную і заможную Беларусь.

***Анатоль МЯЛЬГУЙ***



***Аматары выяўленчага мастацтва ў залі фальварку "Добрыя мыслі".***

# "Беларусы Літвы: партрэт у інтэр'еры грамадства"

У газэце "Голас Радзімы" ад 8 сьнежня 2005 году быў зьмешчаны артыкул журналіста Йонаса Лаўрынавічуса пад вышэйпрыведзеным загалоўкам. У артыкулах на такую тэму кожны аўтар даводзіць свой погляд.

Й. Лаўрынавічус апісвае рост беларускай культуры ў Летуве, але апісаньне гэтае выдае дзяржаўна-прамэнскую мэту аповяду: заглушыць запраўдную нацыянальную сьведамасьць беларусаў Летувы. Ідзе прапагандаваньне згубнай ідэалёгіі менскага рэжыму.

У артыкуле гаворыцца, што вялікую даніну павагі трэба аддаць надзвычай актыўным дзеячам: Лявону Луцкевічу, Хведару Нюньку, Ларысе Каралю, Юрыю Зімніцкаму, Уладасу Банайцісу, Валянціну Стэху, Міраславе Русак, Сьцяпану Дуж-Душэўскаму, Мікалаю Рулінскаму, Лявону Мурашку, Галіне Сівалавай, Ліліі Плыгаўцы, Галіне Войцік-Луцкевіч, Аляксею Анішчыку ды іншым. Журналіст імкнецца паказаць, што прыхільнікі Лукашэнкі ды беларусы Летувы - гэта адная супольнасьць, якая робіць агульную справу.

Сп. Лаўрынавічус піша, што ў Летуве ўзьнялася беларуская дзейнасьць: працуе ў Вільні беларуская гімназія імя Ф. Скарыны, якая прадаўжае традыцыі былой Віленскай беларускай гімназіі, ёсьць магчымасьць адкрываць пачатковыя школы. Усё гэта зусім новае зьявішча, кажа Йонас. Ён канстатуе далей, у Летуве дзейнічае каля 20-ці беларускіх зямляцкіх суполак, якія ўзначальвае Лявон Мурашка. Яны ладзяць імпрэзы, сьвяты беларускай песьні, выходзяць радыёперадачы і шмат чаго іншага. Усё гэта, як сьцьвярджае журналіст, мае падтрымку ад летувіскага ўраду, беларускай эміграцыі, амбасады Беларусі й мясцовай адміністрацыі.

Як ведама, менскі рэжым няспынна прыціскае ўсё беларускае. У Беларусі няма ніводнай школы, ня кажучы пра ўнівэрсытэты, дзе прышчаплялася-б беларускасьць, а толькі ўбіваецца ў галовы, што Беларусь і Расея - гэта нейкая адная супльнасьць. Нават самае маленькае памкненьне ўзяцца за нешта вартаснае, выклікае імгненную забарону.

І ў Летуве беларускія ўлады ўсімі сіламі піхаюць сваю калхозна-пост-савецкую блудную праграму. Мэта адная - разбурыць нацыянальнасьведамую беларускую грамадзкасьць.

У Летуве ўсе свабоды ёсьць ня толькі для летувісаў, але і для іншых нацыянальных групаў, але артыкул летувіскага журналіста зусім не адпавядае праўдзе.

***С.***

# Беларусь за месяц

## Выбары

19 сакавіка ў Беларусі — прэзыдэнцкія выбары. Па стане на 8 сакавіка — калі робіцца падборка навінаў — у бюлетэнях маюць прысутнічаць чатыры кандыдаты (Лукашэнка, Гайдукевіч, Казулін, Мілінкевіч). Альтэрнатыўных кандыдатаў Аляксандра Казуліна і Аляксандра Мілінкевіча не зьнялі зь перадвыбарчай гонкі, хоць яны паводле Цэнтарвыбаркаму "дапусьцілі шэраг парушэньняў выбарчага кодэксу". Той-жа Казулін 17 лютага спрабаваў прарвацца ў Нацыянальны прэсцэнтар, а 2 сакавіка на народны ўсебеларускі сход, калі быў зьбіты супрацоўнікамі спэцатраду хуткага рэагаваньня. Пракуратура завяла ў дачыненьні да экс-рэктара БДУ дзьве крымінальныя справы. На парушэньні дзеючым прэзыдэнтам Выбарчага кодэксу (агітацыя па TV 24 гадзіны ў суткі) і публічныя абразы альтэрнатыўных кандыдатаў Цэнтарвыбаркам увагі не зьвяртае.

## Вакол экзыт-пулаў: хроніка падзеяў

21 лютага ў Менску былі арыштаваныя актывісты незарэгістраванага грамадзкага аб'еднаньня "Партнэрства", што мусіла арганізоўваць назіраньне за выбарамі, Мікалай Астрэйка, Цімафей Дранчук, Аляксандар Шалайка і Эніра Браніцкая. Маладым людзям — ад 24 да 29 гадоў. У іх кватэрах прайшліператрусы, вынікам якіх стала канфіскацыя ўсіх носьбітаў інфармацыі (ад кампутараў да дыскетаў). Самі маладых людзей заключылі пад варту ў сьледчы ізалятар КДБ.

26 лютага па БТ быў паказаны сюжэт, у якім гаварылася, што ў іх канфіскаваных нібыта складзеныя загадзя пратаколы экзыт-пулаў (апытаньняў грамадзянаў на выхадзе з выбарчых участкаў), паводле якіх перамогу ў першым туры атрымлівае Мілінкевіч — 53,7%. Былі таксама канфіскаваныя летувіскія sim-карты, мабільныя тэлефоны, даляры і газавы пісталет.

1 сакавіка на прэс-канфэрэнцыі старшыня КДБ Сяргей Сухарэнка заявіў, што апазыцыя рыхтавала сілавы захоп улады 19-20 сакавіка. Паводле начальніка КДБ "пунктам адліку" якраз і мусіла стаць заява незарэгістраванага "Партнёрства" аб перамозе Мілінкевіча ў першым туры. Таксама, паводле КДБ, увечары на мітынгу апазыцыі нібыта "мусіў адбыцца падрыў нейкалькіх выбухоў прыстасаваньняў". *"Зьяўленьне крыві і ахвяраў мусіла разьвязаць рукі арганізатарам акцыі на рэалізацыю другога этапу сцэнару, якім прадугледжваўся захоп будынкаў органаў улады і кіраваньня, вакзалаў, перакрыцьцё чыгуначных шляхоў, і ў выніку, сілавы захоп улады".*

2 сакавіка ўсім чатыром прад'явілі абвінавачваньне па ч. 2 арт. 193 Крымінальнага кодэксу (арганізацыя альбо кіраваньне грамадзкім аб'яднаньнем, рэлігійнай арганізацыяй альбо палітычнай партыяй, якія замахваюцца на асобу, правы і абавязкі грамадзянаў, і якія не прайшлі дзяржаўнай рэгістрацыі), Гэты артыкул прадугледжвае пакараньне ў выглядзе арышту на тэрмін да трох месяцаў, альбо пазбаўленьне волі тэрмінам да трох гадоў).

## Скрабцу далі 2,5 гады калёніі

Вярхоўны суд 14 лютага вынес вырак былому дэпутату, кіраўніку парлямэнцкай групы "Рэспубліка" Сяргею Скрабцу. Яго прызналі вінаватым у выманьваньні крэдыту ў дзяржавы ды асудзілі на два з паловаю гады калёніі строгага рэжыму (палітык будзе іх адбываць у калёніі "Віцьба" ў Віцебскім раёне). Абвінавачваньне ў незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасьці ў час дэпутацтва і падрыхтоўку да даваньня хабару ў вельмі вялікім памеры ($30 000) суд палічыў пратэрмінаванымі па часе і недаказанымі. Брат палітыка Аляксандар Скрабец, які праходзіў па гэтай справе ў якасьці саўдзельніка, атрымаў два гады ўмоўна з адтэрміноўкаю прысуду на адзін год. Сваю апошнюю прамову ў судзе Сяргей Скрабец скончыў словамі "Жыве Беларусь!".

За час знаходжаньня ў сьледчым ізалятары, з 15 траўня 2005 году, палітык правёў чатыры галадоўкі. У чэрвені 2004 году ён з дэпутатамі Валерам Фраловым і Уладзімерам Парфяновічам трымаў 19-дзённую галадоўку пратэсту супраць адмовы парлямэнту ставіць на парадак дня сэсіі разгляд дэмакратычных паправак у выбарчае заканадаўства.

## Ізалявалі палітвязьняў

Палітвязьняў, што цяпер знаходзяцца на хіміі, за месяц да прэзыдэнцкіх выбараў перавялі на больш пільны нагляд. Андрэя Клімава з Крупскага раёну Менскай вобласьці перавялі ў спэцкамэндатуру ў в. Баршчоўка Рэчыцкага раёну (Гомельская вобл.), за 300 км ад Менску. Міколу Статкевічу забаранілі начаваць у доме ягонага бацькі ды зноў зьмясьцілі ў спэцкамэндатуру ў Баранавічах. Паўла Северынца перавялі з Алешчы ў Малое Сітна (Полацкі р-н) валіць лес. Цяпер былы лідэр Маладога фронту мае зусім абмежаваныя кантакты з навакольным сьветам, а каб сустрэцца зь ім патрэбны дазвол сцэцкамэндатуры.

## "Згода" перадрукавала карыкатуры на Мухамэда

У дачыненьні да недзяржаўнай, сацыял-дэмакратычнай газэты "Згода" КДБ распачало крымінальную справу паводле ч. 1 арт. 130 Крымінальнага кодэксу — "Распальваньне расавай, нацыянальнай альбо рэлігійнай варожасьці і розні". Падстава — перадрук у нумары за 18—26 лютага карыкатураў на прарока Мухамэда і, як вынік, зварот у пракуратуру Дзяржкамітэта ў справах рэлігій і нацыянальнасьцяў мусульманскіх грамадаў Беларусі.

Міністэрства інфармацыі вынесла другое за год папярэджаньне "Згодзе", што дае падставу афіцыйна закрыць газэту. 22 лютага КДБ правялаператрус у газэце і на кватэры яе галоўнага рэдактара і выдаўца, намесьніка старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) Аляксея Караля. У КДБ былі выклікана А. Кароль і ягоны намесьнік Аляксандар Зыдзіжкоў, які і паставіў у нумар, у адсутнасьць Караля, карыкатуры. У БСДП (Грамада) мяркуюць, што такім чынам з газэтай хочуць расправіцца, паколькі А. Кароль ёсьць сябрам ініцыятыўнай групы кандыдата ў прэзыдэнты А. Казуліна.

## Аўтуховіч уцёк з-пад арышту

Ваўкавыскі прадпрымальнік Мікалай Аўтуховіч уцёк з-пад хатняга арышту. М. Аўтуховіч, што займаецца пасажырскімі перавозкамі (таксі), 14 кастрычніка быў арыштаваны па абвінавачаньні ў няўплаце падаткаў. У той-жа дзень ён распачаў галадоўку супраць незаконнага арышту, якую трымаў 74 дні, пакуль 27 сьнежня яго ня выпусьцілі з-за кратаў, зьмяніўшы меру стрыманьня на хатні арышт.

Аднак 9 лютага за некалькі дзён да пачатку судовага працэсу Мікалай Аўтуховіч зьнік з-пад варты, пакінуўшы ліст да генэральнага пракурора Пятра Міклашэвіча. У лісьце ён заявіў, што здымае зь сябе ўсе абавязкі па знаходжаньні пад арыштам з прычыны ціску на ягоную сям'ю. Пракуратура абвясьціла яго ў рэспубліканскі вышук.

Зьехала таксама з Ваўкавыску жонка М. Аўтуховіча.

## Радыёстанцыяў пабольела

22 лютага аднавіла вяшчаньне "Радыё Рацыя". Адбылося гэта дзякуючы спрыяньню Міністэрства замежных справаў Польшчы. Офіс Радыё месьціцца ў Беластоку, і па першым часе яно будзе вяшчаць дзьве гадзіны ў суткі (з 19 да 21 гадзіны па менскім часе) на сярэдніх хвалях (1080 МГц) і часткова ў дыяпазоне FM у памежных зь Летувою раёнах. У адрозьненьне ад былой "Рацыі" новае радыё будзе мець больш інфармацыйна-музычны характар.

З 26 лютага з Варшавы пачало вяшчаньне "Эўрапейскае радыё для Беларусі", створанае пры падтрымцы Эўразьвязу. Яно таксама будзе вяшчаць на сярэдніх хвалях (612 м), але з 8 да 9-й гадзіны раніцы і будзе рэтрансьлявацца праз радыё "Балтыйскія хвалі" ў Вільні.

## Мінюст хоча ліквідаваць Саюз беларускіх пісьменьнікаў

Прычына — адсутнасьць арыгіналу Статуту арганізацыі, наяўнасьць на Доме літаратара (офісу СБП) шыльды з выявою "Пагоні", выкарыстаньне цягам чатырох месяцаў пячаткі, на якой назва арганізацыі ня ўзятая ў двукосьсе, правядзеньне ўвесну 2005 году ў кавярні Дому літаратара арганізацыйнага зьезду Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) — "казулінцаў".

Хучэй за ўсё зачыняць, бо ўжо атрымаў рэгістрацыю ў Мінюсьце Саюз пісьменнікаў Беларусі ("лукашэнкаўцы"), які ўзначальвае Мікалай Чаргінец, і ў новы саюз пачалі пакрысе зьбягаць ужо былыя сябры СБП. Судовае паседжаньне прызначанае на 6 красавіка.

## Знайшлі "тэрарыста"

Высьветленая асоба чалавека, які летась рассылаў па электроннай пошце лісты аб замініраваньні некаторых аб'ектаў Менску (суды, банкі, чыгуначны вакзал) ад імя т. зв. Беларускай народна-вызвольнай арміі. Ягонае імя пакуль трымаецца ў сакрэце, аднак вядома, што "тэрарыст" пражывае ў Нямеччыне, і ў Бэрлін ужо накіраваны запыт аб ягонай экстрадыцыі. Спэцслужбы ня выключаюць, што "тэрарыст" мае дачыненьне да двух рэальных тэрактаў у 1997 годзе: выбуху на газаправодзе ў Стаўпецкім раёне і выбуху ля будынку суда Савецкага раёну Менску.

## Прадпрымальнікаў паменела

За 2005 год у Беларусі колькасьць індывідуальных прадпрымальнікаў, якія стаяць на ўліку, зьменшылася на 5,9 тыс. чалавек. На 1 студзеня колькасьць беларускіх прадпрымальнікаў складае 177,9 тыс. Што да дробных прадпрыемстваў, то іх найбольш сканцэнтравана ў гандлі і грамадзкім харчаваньні — 41%, у прамысловасьці — 22,9%, будаўніцтве — 12,1%, транспарце — 5,7%.

## Новыя трэнеры зборных

Рашэньнем выканкаму Беларускай фэдэрацыі футболу сёньняшні кіраўнік менскага клюбу МТЗ-РІПА Юры Пунтус прызначаны новым галоўным трэнерам нацыянальнай зборнай. Цягам шасьці гадоў ён узначальваў моладзёвую зборную, а ў 1997—2004 гг. барысаўскі БАТЭ. І з аднымі, і з другімі ён дабіўся някепскіх посьпехаў. Першы іспыт Ю. Пунтус трымаў 28 лютага — 1 сакавіка на Кіпры на таварыскім турніры чатырох зборных. У першы дзень беларусы прайгралі зь лікам 1:0 чэмпіёну Эўропы – 2004 зборнай Грэцыі, а 1 сакавіка ў матчы за 3- месца зборнай Фінляндыі.

Галоўным трэнерам моладзевай зборнай прызначаны Юры Курненін.

## Рок-каранацыя

28 лютага ў Менску пасьля двухгадовага перапынку прайшоў X фэст "Рок-каранацыя". Самы галоўны прыз — **рок-карону** і тытул найлепшага гурту заваяваў J_Mors. **Рок-князёўнай** стала Руся (гурт "Індыга"). **Альбомам году** названы дыск гурту "Нэйра дзюбель" "Тапкі" (першы дыск дзюбаляў па-беларуску), **песьняй году** стаў "Белакрылы анёл" гурту "Zet", **выканаўцам году** — Лявон Вольскі. У намінацыі **"Кліп году"** перамог кліп "Турысты" праекту "Крамбамбуля", **"Традыцыі і сучаснасьць"** —Іван Кірчук ("Тройца), **"Праект году"** — зборнік у MP-3 "Тузін гітоў", **"Найлепшая альтэрнатыўная каманда"** — ТТ-34 (Гомель), **"Дэбют году"** — "Таварыш Маўзэр" (Магілёў), **"Найлепшы блюз-рок-выканаўца"** — "Крама". Адмысловым прызам ад парталу tut.by ганараваны журналіст Віктар Дзятлікоўіч за кнігу "Іх мроя, іх NRM".

Цікава, што пераможцы рок-каранацыі J_Mors зьехалі падчас цырымоніі, заявіўшы, што "прынцыповая пазыцыя гурту нherўдзел у розных палітычных і калялітычных мерапрыемствах". Гэта быў намёк на Аляксандра Мілінкевіча, што прысутнічаў на каранацыі. Праўда, ніякіх палітычных заклікаў падчас цырымоніі не гучала.

*Уласны карэспандэнт*



*16-га дня кожнага месяца тысячы беларусаў удзельнічаюць у Днях Салідарнасьці. А восьмай гадзіне вечара яны запальваюць ў сваіх вокнах сьвечкі . Сотні людзей, не гледзячы на рэпрэсіі, штомесяц выходзяць на Кастрычніцкую плошчу Менска з запаленымі сьвечкамі ў руках.*

*Фотаздымак Уладзімера ЦЯРОХІНА*

Сяржук СОКАЛАЎ-ВОЮШ

# Над болем

Сьхілі галаву, падарожны...
Пад гэтай гарою
Ляжаць не героі,
Бо сон у герояў трывожны,
Бо іх заклікаюць жывыя:
Сьпіце спакойна...
А тыя
Спакойна ня ўмеюць,
Ня могуць
І сеюць
Веру ў перамогу.

Сьхілі галаву, падарожны...
Пад гэтай гарою паснулі,
Маўкліва прыняўшы кулі,
Вартыя даравацьня,
Хаця далёка ня кожны
Хвілінай, сэкундай скананьня
Думаў: "не вінаваты",
Што пры ўладзе каты...

Дажджыска імжыць аблoжна,
Ці плача? Сказаць ня можна
Над тэрыторыяй болю,
Дзе столькі магіл парожніх,
Пабожных вачэй, бязбожных,
Дзе вінны – бязьвінны... кожны,
Дзе кожны выканаў ролю...
Сьхілі галаву, падарожны.

На гэтую памяць воля,
Ніхто камянём ня кіне,
Вецер гойдае гольле,
Вецер ірве павуціньне
Іншых шляхоў вастрожных
Сёнячы твань прарочыць...
Куды-ж ты? Гэй, падарожны!
Ты ў ноч, або проці ночы?
Чакай!
Ну, вось і растаяў...
На захадзе, а на ўсходзе
А можа й не прыходзіў...
Магіла стаіць пустая...

## II

– Хто тут сказаў бязьвінны? –
Пытаньне пачуўшы сьпінай,
Я ўськінуўся апантана, –
Тут людзі ўсялякіх станаў.
Некім зь іх ты вітаны,
Некаму ненавісны,
Колішні ўсюды гнаны,
Хаця й ня ўсюды існы.

– Хто вы?
– Паўстанцы... воі...
– Словы...
Таму... бяз зброі,
Сьлед на зямлі... ня здані...
– І пэўна не на заданьні.
Думай як хочаш, зрэшты.
– А скуль пра мяне вам нешта
Вядома, як вы з былога?
– А ў нас на цябе аблога!
Спалохаўся? Будзь мужчынам,
– Рыхтуйся, браток.
– Геройся.
– Мы проста, бяз дай прычыны
Пакажам табе сканалых,
Ня ўсіх, бо ляжыць ня мала
У гэтай зямлі. Ня бойся.

Я крочыў-ішоў між хлопцаў,
Між гэтых паўстанцаў-вояў
Туды, дзе ў апошняй кропцы
Сыйшліся часоў сувоі,
Месяц сьлізгаў за хмары,
Ізноў вылязаў навонкі.
Я ўглядаўся ў твары,
Прыслухваўся да гамонкі,
А тыя нібы міжсобку,
Але для мяне, вядома,
Ля ямаў заміж нагробкаў
Тлумачылі ціха, хто мы:

– Той бальшавізам славіў,
– Той ненавідзіў моўчкі,
– А гэты сядзеў на лаве
З паглядам зьвярыным, воўчым.
– Ён, бачыце, быў нэўтральным,
Ён думаў, што пераседзіць,
Тут роду яго пахавальня.
– А там курганок суседзяў.

– Дык тыя хоць спачувалі.
– Ну, праўда, не запярэчу.
– А гэтыя катавалі
Палонных па лютай сечы...
– Чакай, мне здаецца, з нашых
Нехта ў гэтай яме.
– Выходзь, мы йзноў на маршы!
– Я, хлопцы, і рады-б з вамі,
Ды мыліцы ў камісарцы
Забралі на Валадарцы.

– Мыліцы адваюем
Сёньня-ж паедзеш конна,
Там, за гарой, швадроны
Гэтман... туман гуртуе,
Бачыш, вунь дрэвы-дзіды
Чуйна тапыраць вушы,
Чужых туманоў прывіды...
– Я зразумеў. Я мушу.

– Як-жа вы так... калеку... –
Мне закарцела ўлезьці.
– Не, браток, чалавека...
– Гэй! Памажы хто сесьці
З норавам конь вятраны.
Дапамаглі. Паехаў.
Бяз пошчакаў і бяз рэхаў.
– Скажэце, а вэтэраны
Апошняй вайны?
– Апошняй?
Хіба была такая?
– Ну, як-жа... Ведае кожны.
– Спытай таго, хто блукае,
Пакінуўшы цемру ямы,
Што за вайна, якая
Стаяла-б апошняй самай.

Спытайся, чаму ня сьпіцца
Яму са сьвінцом у сэрцы?
Чаму ў пасьмяротных жыцьцях
Знаходзіць ён толькі сьмерці?

– Чаму?
– Бо няма спакою
Нашчадкам у нашым краі.
– Глупства. Нашыя воі
У бітвах не паміраюць,
Мы не ваюем даўна,
Мы мірныя як ніколі!
– Вы зьміраныя і ўяўна
Вайны не вядзеце болей,
На яве-ж, куды ўжо горай,
Грукоча вайна з пакорай,
З прыніжанасьцяй, з забыцьцем...
Марнуюцца вашы жыцьці...

Ты вось прыйшоў, сьхіліўся,
Мо за бязьвінных маліўся?
А перад кім бязьвінных?
Бязьвінных перад Айчынай?
Перад сваім сумленьнем?
Перад чаргой пакаленьняў?
Перад мінулым слынным?
Не. Перад тым злачынным,
Дзікім, нялюдзкім ладам,
Перад чужой уладай.

Вось і ня сьпім спакойна,
Вось і ваюем войны...
– Можа хоць вы пераможна?
– Рожна бывае... рожна...
Вынік баёў залежны:
Выйгралі вы, то значыць
Выйграць і нам належна
І ўжо ніяк ня йначай.

Ён гаварыў спакойна,
Ён гаварыў будзённа,
Нібыта усё пра войны
Вядома і зразумела,
Плыў золак падманна-сонны,
Плакаў трыпутнік гойны
Ня варты для ранаў духу,
А толькі для ранаў цела.

Маўчалі браты па зброі
Нашы... мае таксама,
Хоць я толькі ледзь заўважыў
Ва ўласных далонях меч.
– Я з вамі.
– Сваёй парою
І праз тагасьветную браму.
Па тым як сябе ня спляжыў
Во, брат, якая рэч.

– Дык я застаюся біцца,
Змагацца ва ўласным часе?
Дазвольце хоць распавесьці
Іншым людзям пра вас.
"А мо гэта толькі сьніцца,
І я на сваім Парнасе,
І варта адное – зьлезьці..." –
Падумалася ў адказ.

– Дык, іншым пра нас вядома.
– Няма тут сакрэту, браце.
– Чаму-ж тады я ня ведаў?
– Бо моўкнасьць у вас закон,
Бо вы быццам госьці дома,
Як не ва ўласнай хаце.
Крыніцай уласных бедаў...
Самі сябе на скон...

– Во як?
– А ты што думаў?
Паходзіш, паплачаш сумам,
Пастогнеш пра лёс гаротны
І станеш самім сабой?
Удумным і патрыётным,
Такім ужо незваротным
Узьнімешся па-над тлумам,
Паўстанеш над грамадой?
Што стоячы на каленях
Прашчэмісься ў людзкі побыт,
У норцы расправіш крылцы
Ў люстра сьлязы глядзючы?
Што ты іншадумства гэній,
Што пёрка крамольны шкробат
Зьбярэ пры тваёй магілцы
Наступнікаў уначы?

– Ну, што ты яго пярэсьціш?
Па-мойму, ня з горшых хлопец...
– Вядома, ня з горшых, толькі
Дастане адзін за ўсіх,
Можа згадае дзесьці.
– Можа! Згадае! Хопіць!
Раны чапаць – ня болькі!
Плакаць – не галасіць.

Мой голас схапіла рэха,
А іхныя замаўчала,
Нібыта сказаў такое,
Што вартае паўтараць...
Цемра цямрычным сьмехам
У цемрадзі цьмы крычала,
І прагнула супакою
Блутаных думак раць.

Туман закіпаў, клубіўся,
Ён з чорным туманам біўся,
З ружовым, з чырвоным, з кожным...
А тыя йшлі аблoжна,
Насоўваліся, кіпелі,
Здалялі ды не здалелі.

Я бачыў! О, так! Я бачыў,
Як у гушчэчы бітвы
Змагаўся бязногі коньнік,
З абломкам меча ў далоні.
Я бачыў! О, так! Я бачыў,
Як у варожую глотку
Ўпіваўся зубамі бязрукі,
Як стрэлы пушчалі лукі,
Як вочы ішлі пад лёзы,
Каб вораг ня ўбачыў сьлёзаў,
Як горб адсякаў гарбаты,
Каб леглі на сьпіну латы.

Я бачыў! О, так! Я бачыў,
Як сэрцы сьцякалі долу,
А сьціжмы бязьвінных зь ямаў
Пілі тую вільгаць прагна,
І кожны нямоглы, кволы
Раптоўна ўставаў як волат
Ды ў бітву ня йшоў таксама,
А тоўкся назад у багну.

Я крыкнуў бязьвінным: "Стойце!
Пусьціце ў сябе адвагу!
Б'ецца нашае войска!"
І раптам дастаў адказ:
"Суцішся й супакойся.
Нам тут і так ня блага,
Ты-ж, хлопец, здаецца, свойскі
Здаецца, ты нехта з нас.

Ну, выйдзеш, ну, паваюеш,
Ну, выжывеш, ці загінеш
Або прападзеш бязь вестак,
Ня важна – адзін канец.
Толькі... каго ўратуеш?
Лёсу-ж свайго ня мінеш.
Безьліч дарог-пярэстак
А ў выніку – курганец".

"Вы звар'яцелі, людзі!
Я-ж вам пра лёс Радзімы!"
"Чулі"."Вучылі ў школе".
"А што ты крычыш?"
"Ага".
"Лепей падумай, што будзе
З табою. З тваёй радзінай.
Колькі сірочай голі
Бадзяецца наўкруга!"

"А вашыя – не сіроты
З такімі, як вы, бацькамі?
З такімі, як вы, сябрамі?
Ды, зрэшты, ці вы сябры?"
"Нашы ня мруць пад плотам,
Ня поўзаюць жабракамі,
Навошта-ж ім вayрамі?
Ёсьць іншыя змагары".

"Ёсьць іншыя? Гэта тыя,
Хто сэрцамі вас жывілі?"
"Дык хіба яны сьвятыя?
Мы ўсе ў аднэй магіле,
А словаў прыгожых кожны
Нагаварыць умее,
Быў тут адзін, падарожны,
Шаптаў, што душа нямее,
І слаў да нябёс малітвы,
Зрасіўшы сьлязамі глебу...
Мы-ж гэдак жывем, як звыклі
Мы-ж можам і так... бязь неба".

"А памяць... За памяць дзякуй.
Усё-ж пражылі ня марна.
Вунь, бачыш, і слуп з адзнакай:
"Ахвярам" – значыць ахвярным..."

## III

Ня памятаю, як выйшаў,
Хоць мог-бы, вядома, сьцежкай,
Ды ногі панесьлі самі
Праз твань, праз карчэўе, праз...
Трывожна крычала ціша
З моўкнасьцю ў перамешку
Халоднымі галасамі
Асіплымі ад параз.

Я мкнуўся туды, дзе золак,
А той не зьяўляўся ўпарта.
Я думаў, што ён акажа
Разьвязкі маёй начы
Прасілася ў рым: вясёлак,
Прасіліся: варты, гарту,
Прыходзілі-ж: сажа, мажа,
Прыходзіла: памачы...

Спыніўся на раздарожжы,
Скуль сьцежкі паміж шляхамі
Віюцца, бягуць па сьвеце
І... не... не пачуў... адчуў:
– Куды ты, гэй, падарожны,
Недзе тут, пад імхамі...
Я азірнуўся. Вецер.
Да вільгаці ў ваччу...

Няскончаная паэма,
Ня знойдзеныя адказы,
Нібыта ня ў тэму тэма,
І думкі палоніць золь.
І самі кладуцца сказы
Маю абыйшоўшы волю:
Над тэрыторыяй болю,
Над болем таксама боль.

* * *

Я ведаў адказ калісьці
Упарты, нязломны, сьмелы.
Буяла на дрэвах лісьце,
Жоўкла, а не сівела,
Беглі шляхі да выйсьця,
"І ўжо ніяк ня йначай,"
Я ведаў адказ калісьці
Выразны й адназначны.
О, ісьціна на далоні!
Я чую цябе й сёньня
З вуснаў чужых, юначых,
Хто ведае што зіначыць,
І як, і якое прыйсьце...
Я ведаў адказ калісьці.

*4 ліпеня 2005 г.*
*Гатычны праезд. Кўінс*

# Аб беларускай іміграцыі ў Аўстралію

Вядома, што ангельскамоўная Аўстралія аддае перавагу ў мэдыях імігрантам з "сваіх" краінаў, асабліва з Ангельшчыны. Ангельцы-імігранты нават атрымалі тут мянушку "помі". Калі верыць тлумачэньню, то Pome азначае: Prisoner of Mother England, што адпавядае гісторыі засяленьня аўстралійскага кантынэнту вязьнямі, як з Ангельшчыны, так і зь яе абшырных калёніяў.

Але сярод аўстралійскіх чытачоў існавала цікавасьць да пасяленьня на гэтым кантынэнце і іншых імігрантаў, асабліва немцаў, якія заснавалі ў Паўднёвай Аўстраліі вядомыя сёньня на ўвесь сьвет вінарні. Таму паступова пачалі друкавацца розныя ўспаміны й апавяданьні імігрантаў рознага этнічнага паходжаньня.

Ужо з канца 19-га стагодзьдзя ў аўстралійскім і эўрапейскім друку пачалі зьяўляцца кнігі, якія адлюстроўвалі жыцьцё эмігрантаў з Эўропы і розных калёніяў Брытаніі ў Аўстраліі.

Беларускім дасьледчыкам цікава будзе ведаць, што паміж 1927 і 1935 гадамі мэльбурнскі ўнівэрсытэт надрукаваў (два разы) кнігу J. Lyng, Non-Britishers in Australia, у якой толькі адна старонка адведзена польскай іміграцыі ў Аўстралію. На польскіх імігрантах трэба спыніцца асобна, бо менавіта яны далі Аўстраліі вядомых дасьледчыкаў, навукоўцаў і краязнаўцаў. Сярод іх найбольш вядомымі зьяўляюцца наступныя: Касьцюшка, войска якога разьбіла расейцаў у 1794 годзе, і Стржэльскі.

Сьв. памяці сп. Алег Шнэк шмат пісаў у розныя аўстралійскія інстанцыі, але так і ня змог патлумачыць мясцовым бюракратам, што Касьцюшка, у гонар якога названая гара ў Аўстраліі, народжаны не паляком, а беларусам. Цікава адзначыць, што аўстралійцы вымаўляюць слова Касьцюшка па-мясцоваму: Казіоска.

Шырокі прыток імігрантаў зь лягероў ДП у Нямеччыне (пасьля сканчэньня 2-ой Сусьветнай вайны) даў штуршок зьяўленьню ў 1950-х гадох новай хвалі друкаваных выданьняў у Аўстраліі. Аднак ня ўсе пісьменьнікі-імігранты бачылі неабходнасьць зьяўленьня ў аўстралійскім друку апавяданьняў аб лёсе перасяленца. Напрыклад першы старшыня Беларускага Абгеднаньня ў Паўднёвай Аўстраліі Янка Ролсан надрукаваў кнігу на ангельскай мове ***Belarus. Land and People*** ў якой тлумачыў аўстралійцам аб існаваньні невядомай для іх краіны, бо лічыў працу распаўсюджваньня ведаў пра сваю былую Бацькаўшчыну важнейшаю.

Пасьляваенная хваля імігрантаў амаль безь вялікіх зьменаў перанесла ў Аўстралію пасьля 2-ой Сусьветнай вайны створаныя на эўрапейскім кантынэнце палітычныя, этнічныя і рэлігійныя арганізацыі. На аўстралійскай зямлі амаль адразу пачалі зьяўляцца газэты, часапісы, а некалькі гадоў пазьней і кнігі. У 1962 годзе ў Лёндане на польскай мове выйшла кніга Леха Пашкоўскага "Палякі ў Аўстраліі і Акіаніі". У 1980 годзе зьявіўся дапоўнены ангельскамоўны варыянт гэтай кнігі ў Аўстраліі. (Lech Pazkowski. Poles in Australia and Oceania 1790 – 1940, Melbourne).

Падаючы вялікую колькасьць цікавых для дасьледчыкаў прозьвішчаў, фактаў і дагумэнтаў, Пашкоўскі паведамляе і аб уцекачах-удзельніках паўстаньняў 1831-1863 гадоў супраць расейскага панаваньня на польска-(беларуска-украінскіх) землях. Праўда, пішучы пра паўстаньне 1863-64 гадоў, аўтар, нажаль, абыходзіць у сваёй кнізе імя заставальніка беларускай нацыянальнай ідэі Кастуся Каліноўскага бокам.

Цікавым для далейшых дасьледваньняў зьяўляецца паданая Пашкоўскім асоба доктар Максыміліяна Луковіча, які працаваў галоўным мэдыкам Новай Гвінэйскай Кампаніі (1888-89), а пазьней меў сваю практыку ў Сыднэі (аж да 1921 г.), пасьля чаго зьвярнуўся ў тагачасную Польшчу. У сваёй працы Пашкоўскі нават адзначае прыбылых у Аўстралію аняменаных палякаў. Аднак дадае: пад пытаньнем польскае паходжаньне доктара Абрамоўскага, ня гледзячы на яго польскае імя, таму што ён нарадзіўся ва Ўсходняй Прусіі, паходзячы з старажытнай *рускай* сям'і. Піша Пашкоўскі і пра капітана польскага войска 1831 году Фэлікса Жабу (гады жыцьця: 1803-1885). Пасьля падаўленьня паўстаньня Жаба іміграваў у Вялікую Брытанію, стаў прафэсарам, пазьней - прэзыдэнтам унівэрсытэту.

Калі з Польшчы эміграцыя пасьля сканчэньня 2-ой Сусьветнай вайны амаль не спынялася, то межы былога СССР былі цьвёрда зачыненыя. Толькі падчас развалу "магутнага" СССР зьявілася магчымасьць прыезду ў Аўстралію эмігрантаў-беларусаў хвалі 90-х гадоў. Зацікавіліся ў гэтыя гады жыцьцём сваіх суайчыньнікаў і дасьледчыкі з Бацькаўшчыны. Прыкладамі дасьледваньня жыцьця беларускай іміграцыі ў Аўстраліі можна назваць зроблены ў 1994 годзе фільм "Востраў Антыподаў. Частка 1-я. Изменнички" (Ірына Дварнічэнка, Менск, 47 хвілін) і арганізаваны Фэдэральнай Радай Беларускіх Арганізацыяў прыезд ў Аўстралію Натальлі Гардзіенкі з мэтаю напісаньня кнігі пра аўстралійскіх беларусаў ("Беларусы ў Аўстраліі", 2004, 465 старонак, Бібліятэка "Бацькаўшчыны").

Пачаўшая працаваць у Аўстраліі з 1990 году (нашая былая суайчыньніца) Алена Говар дасьледуе жыцьцё імігрантаў славянскага паходжаньня з былой расейскай імпэрыі, якія апынуліся ў Аўстраліі да пачатку 1-ай Сусьветнай вайны. У сярэдзіне 2005 году спн. Говар надрукавала ангельскую кнігу "Russian Anzacs in Australian History", 310 старонак, (Sydney, UNSW Press 2005), у якой адзначае прысутнасьць у Аўстралійска-Навазыляндзкім Корпусе часу 1-ай Сусьветнай вайны й жаўнераў беларускага паходжаньня.

Сп. Говар ў сваёй працы паведамляе, што сярод іншых у корпусе змагаліся 252 асобы ўсходнеславянскага паходжаньня (этнічныя расейцы, беларусы й украінцы). Аддаючы дасьледчыцы павагу за працу і зробленыя пошукі, тым ня менш (на мой погляд) трэба адносіцца вельмі асьцярожна да заяваў аўтаркі кнігі аб этнічным паходжаньні знойдзеных ёю "беларусаў", пра якіх трэба будзе рабіць асобныя далейшыя (нялёгкія) пошукі. Ня маючы дадатковай інфармацыі, дасьледчыца падае ў шматлікіх выпадках не адну этнічнасьць, а некалькі, як напрыклад ў выпадку Чэслава Івашкевіча (Менск), як паляка-беларуса, Георгія Гурасава (Магілёў) як расейца-беларуса, Іосіфа Будрэвіча (Коўна, Літва) як паляка-беларуса-расейца. Кім-жа быў па-нацыянальнасьці Іосіф Будрэвіч? Паляк? Беларус? Расеец? Ці, нарадзіўшыся ў беларускай сямі, ён стаў спачатку палякам, а потым ператварыўся паступова ў расейца?

Спн. Говар адзначае наступных праваслаўных асобаў як "беларусаў": Пракофія Пашкевіча (Барысаўка, Горадня), Пятра Віселенскага (Слонім, Горадня), Устына Главацкага (Берасьце), Аляксандра Майко (Менск), Андрэя Жабінскага (Барысаў), Яна Матвейчыка (Ваўкавыск, Горадня), Фёдара Лейку (Слонім, Горадня).

Каталікамі-беларусамі пішуцца: Вільям Дыёнчык (Ліда), Павел Зіневіч (Горадня), Асіп Рынкевіч (Віцебск), Чэслаў Івашкевіч (Менск). Толькі не адзначаная рэлігія Баляслава Збэкоўскага (Берасьце).

Заўважаючы чытачу на складанасьці ў пошуках, дасьледчыца, тым ня менш, у бальшыні выпадкаў робіць высновы аб этнічным паходжаньні асобы толькі праз наяўнасьць адзінага сродку інфармацыі - месца нараджэньня асобы.




Тут трэба адзначыць, што спн. Говар у сваёй кнізе усё-ж коратка паведаміла ангельскамоўнаму чытачу аб складанай гісторый расейскай імпэрыі, аб шматслоўнасьці слова "рускі", аб няспынnай палітыцы русыфікацыі й яе ўплыву на жыцьцё розных этнічных групаў. Алена давodзіць чытачу, што за словам "Рускі АНЗАК" хаваюцца ня толькі брытанцы, аўстралійцы і новазеляндцы расейскага паходжаньня, але і іншых этнічных групаў. Гэта так, але не з усімі яе довадамі можна пагадзіцца. Спн. Алена Говар піша пра прадстаўнікоў розных этнічных славянскіх і неславянскіх грамадаў, якія прыняў удзел у 1-ай Сусьветнай вайне ў шэрагах корпусу АНЗАК. Не абыходзіць яна і «беларусаў». Напрыклад, піша пра Андрэя (Іванавіча) Жабінскага, які нарадзіўся ў Барысаве, беларуса, дадаючы, што ён быў праваслаўным, прыехаў у Аўстралію (у Брызбэн у 1913 годзе) пасьля працы ў расейскім сібірскім інжынэрным аддзеле. Цікава, што далей аўтарка адзначае, што ягоная жонка Рыма з дачкою засталіся ў Расеі (невядома толькі, у якой частцы Расеі).

Я магу памыліцца, але, на маю думку, Андрэй Жабінскі мог нарадзіцца і ў сямгі так званых расейскіх асаднікаў, якіх шмат пряжджала на беларускія землі. Таму ён і ўзяў сабе пазьней ў жонкі расейскую жанчыну, а потым завербаваўся (ці быў узяты на службу) ў Сібір і адтуль прыплыў ў Брызбэн. Да гэтай сытуацыі можна аднесьці і праваслаўнага Фёдара (Трафімавіча) Лейку, які нарадзіўся ў 1878 годзе ў Слоніме. Прыплыўшы ў Аўстралію ў 1914 годзе ён пазьней падаў на атрыманьне аўстралійскага грамадзянства як расеец.

Тэма "расейскіх" беларусаў ня новая. Аб ёй пісалі і раней. Напрыклад газэта "Бацькаўшчына" надрукавала ў 1952 годзе артыкул пад назваю "Голас старога эміграанта". Менавіта ў гэтым артыкуле стары беларус па прозьвішчу П. Хаценскі пісаў: (22-5-1952) "Нам, беларусам у Амэрыцы, ніхто аб вольнай Беларусі не паведамляў, мы па-старому звычаю славілі Расею й бацюшку цара. Мы толькі ад вас, маладыя беларусы, гэта чуем... З прыездам у наш горад нашых маладых суродзічаў, я й многа другіх шмат пачуліся нeяк больш сваімі. Нас сотні тысяч такіх "рускіх" у Амэрыцы, і мы ўсе ня знaлі, што нашая гісторыя багатая й што мы ня горшыя за іншых людзей. Я хачу крычаць...што мы ня рускія, а беларусы й гэтым мусім ганарыцца. Падайма рукі прыязныі нашым маладым беларускім эмігрантам і пойдзем зь імі разам з аднэй ідэяй — за вольную Беларусь! Няхай жыве Вольная й ад нікога Незалежная Беларуская Народная Рэспубліка! Дэтройт."

З гэтага артыкулу ясна, кім зьяўляліся (хай ня ўсе, але шмат хто з праваслаўных, адзначаных спн. Говар "палякамі-беларусамі-расейцамі" ці "беларусамі-расейцамі". Менавіта тыя беларусы, у якіх Расея праз сваю імпэрскую палітыку русыфікацыі практычна выкрала беларускую нацыянальную ідэю, ператварыўшы іх у адную з сваіх "малых" этнічных груповак, у жыхароў нейкага "свайго" заходняга краю ці, карацей кажучы, калёніі.

Для дасьледчыкаў рэлігіі цікава будзе знайсьці ў кнізе спн. Говар, што нарадзіўшыся ў Слоніме ў 1894 годзе Пётр (Адамавіч) Віселенскі прыплыў у Аўстралію з ЗША праваслаўным, але ўжо падчас 2-ой Сусьветнай вайны хадзіў да Царквы Англіі ў Аўстраліі. Ці ён пераняў сабе рэлігію жонкі-аўстралійкі? Ды да таго-ж далей дасьледчыца прыводзіць яго словы: "Я нарадзіўся ў Расеі". Гэты факт цікавы тым, што пры адсутнасьці ў той час назвы Беларусь спн. Говар тым ня менш падае чытачу месца нараджэньня Віселенскага як Belarus, а не заходнюю частку Расеі ці яе калёнію. Спн. Говар усюды пазьбягае ў сваёй працы словаў "акупант", "акупацыя" і замест напісаньня "occupied by Russia Belarusian land", адзначае толькі словы Belarus, Byelorussia.

Я ўжо сказаў, што дасьледчыца патлумачыла чытачу вялізарнасьць расейскай імпэрыі, яе шматкультурнасьць і шматэтнічнасьць, але нідзе ў сваёй працы ня адзначае супраціву прымусовай русыфікацыі, ня піша ангельскамоўнаму чытачу пра супрацьрасейскія бунты й паўстаньні. На маю думку, дасьледчыца павінна была больш дэталёва патлумачыць чытачу складаны лёс беларускіх, украінскіх і асабліва польскіх земляў (напрыклад, пра тры падзелы). Яна магла напісаць пра П. Віселенскага, што ён нарадзіўся на акупаванай расейскім урадам беларускай зямлі, таму і лічыў сябе не беларусам, а расейцам. Лічу, што адзначаць яго этнічным беларусам, як зрабіла дасьледчыца, памылкова.

Да вышэй адзначанага трэба дадаць, што спн. Говар піша пра месца нараджэньня праваслаўнага Георгія Гурасава (як і іншых народжаных на беларускай зямлі): Paluzh, Mogilev, Belarus. Алена тлумачыць, што карыстаецца словамі Belarus, Byelorussia для лёгкасьці пошукаў дасьледчыкаў, таму піша пра беларусаў, як Byelorussians. Але, на маю думку, карыстаньне прасавецкімі назвамі адкідае чытача больш чым на дзесяць гадоў назад і робіць справу ўяўленьня месца нараджэньня (асабліва для небеларусаў) яшчэ больш незразумелай.

***Заканчэньне на наступнай бачыне***

Сяржук СОКАЛАЎ-ВОЮШ

# Патрэба песьні

## (эсэ)

“Пакуль палякі сьпявалі “Багародзіцу”, нашыя і за іх, і за сябе біліся! Таму й перамаглі!” Гэтыя, сказаныя ў палемічным запале адным знаёмым словы, заўсёды прыходзяць на памяць, калі размова йдзе пра патрэбу песьні.

Згадаліся яны й тады, калі пару-другую гадоў таму ў Менскім Доме Літаратара Беларуская інтэлігенцыя вырашала пытаньне дзяржаўнага гімну. Прапановаў было некалькі: “Пагоня”, “У гушчарах”, “Радзіма мая дарагая”, “Мы выйдзем шчыльнымі радамі”, “Магутны Божа”.

Да апошняй сьхілялася бальшыня прысутных. Зачараваныя музыкай Равенскага й словамі Арсеньневай, людзі не хацелі бачыць відавочнага, і таму давялося браць слова, давялося гаварыць пра тое, што мне таксама даспадобы рэлігійны, падтрыманы, дарэчы, і прысутнымі там Беларускімі татарамі, гімн, які, аднак, ня мае права быць дзяржаўным.

Аргумэнтаў было некалькі. Найперш – гэта разуменьне дзяржаўнага гімну самой Арсеньневай, якая заўсёды ў якасьці дзяржаўнага сьпявала “Мы выйдзм шчыльнымі радамі”. Па-другое, верш Арсеньневай, вядомы нам пад назваю “Магутны Божа”, насамрэч называецца “Малітва”. Адсюль і трэйці, самы галоўны, аргумэнт... зрэшты, пра яго – падрабязьней.

Адкінем зачараванасьць і ўчытаемся ў радкі тэксту. Суцэльныя дзеясловы-просьбы: рассып, дай, пашлі, зрабі, прычым зрабі – двойчы, а дай – тройчы! Сем просьбаў на дванаццаць радкоў! І нідзе, ніводнага разу адказнасьці на сябе! Маўляў, прасіў-прасіў – ды Бог ня даў, што-ж тут паробіш. Якое пасьля гэтага можа быць пачуцьцё віны? Ніякага! А калі далучыць сюды вядомае, што ўсякая ўлада ад Бога – дык і казаць няма чаго. Мы цалкам апраўданыя, чысьценькія перад сваім народам і сваім сумленьнем, чысьценькія перад гісторыяй. А як-жа йначай! Усё-ж зрабілі як належыць: шчыра маліліся, шчыра прасілі.

Не, даражэнькія. Мне куды бліжэй фальклёрнае: на Бога спадзявайся, ды свой розум май. Мне да душы тыя, хто, замест сьпяваць “Багародзіцу” бярэ на сябе ініцыятыву й адказнасьць і вінаваціць у сваіх бедах найперш сябе, а не пачынае перакладаць свае пэрсанальныя нядбайнасьць і гультайства на плечы Бога, ўскосна робячы яго саўдзельнікам сваёй злачыннай бязьдзейнасьці, ды вінавата гундосячы пад нос: “Бог ня даў”. Менавіта адсюль ідзе яшчэ адна народная мудрасьць у якой на словы “Бог у дапамогу”, адказваюць: “Бог казаў, каб ты памог”.

* * *

Пры ўсім пры тым “Малітва” “Магутны Божа” была й ёсьць, калі можна так сказаць, адною з найвялікшых песьняў нашага народу. Яна – глыбока інтымная, пачуцьцёва-кранальная. Яна высакародная, магутная ў сваёй велічы, незалежна ад таго сьпявае яе Любэнскі хор ці Круглова, Вайцюшкевіч і Вольскі пад фантастычную гітару Паўлава.

Чаму я загаварыў пра гэта сёньня? Справа ў тым, што на адной з вэб-старонак прагучала: “...тэрмінова патрэбна добрая песьня (...) якая будзе прымушаць сьлёзы зьяўляцца на вачох, лёгка запамінальная, бадзёрая й глыбока пранікальная ў душу. Песьня, здольная падтрымаць маральны дух тых, хто 19 і 20 сакавіка выйдзе на вуліцы бараніць сваю волю. Песьня, якую пачуўшы з вуснаў шматтысячнага натоўпу, прымусіць дыбам устаць апошнія валасы на галаве ў Лукі й ягоных “лізо(у)блюдкаў”. Яна мусіць да выбараў зьявіцца на ўсіх сайтах, гучаць па радыё “Свабода”. Паўсюль. Каб кожны, хто захоча, мог запомніць словы й сьпяваць яе, каб пачуўшы, нават прыхільнікаў дыктатара, яна прымусіла задумацца”.

Зразумела, што на гэта я адразу-ж адрэагаваў, прапанаваўшы “Мы выйдзем шчыльнымі радамі” і досыць хутка дастаў у адказ: “Магутны Божа”.

І тады я ўявіў сабе пляц, шматтысячную грамаду, АМОНаўскія ды міліцэйскія, ашчэраныя (у лепшым выпадку) дручкамі, кардоны, вадамёты, схаваныя ў прылеглых завулках аўтобусы з вайскоўцамі ды “варанкі” для арыштаваных, а над усім гэтым:

Дай спору ў працы, будзённай, шэрай,
На хлеб штодзённы, на родны край.
Павагу й сілу і веліч веры
У нашу праўду, у прышласьць дай.
Дай урадлівасьць жытнёвым нівам,
Учынкам нашым пашлі ўмалот...

... і замест у Лукашэнкі ўздыбленыя валасы самых выканаўцаў, маўляў, што мы сьпяваем?! Якія жытнёвыя нівы, які ўмалот? Ды тут зараз такі ўмалот можа пачацца! І вось яно:

А гвалту мы дамо адпор,
дамо адпор!

Няхай жыве магутны, сьмелы,
Наш Беларускі вольны дух,
вольны дух!
Штандар наш бел-чырвона-белы
Пакрыў сабой народны рух.

На бой! За шчасьце і за волю
Народу слаўнага свайго!
Браты, цярпелі мы даволі...
На бой! Усе да аднаго!
Да аднаго!

Імя і сілу Беларуса
Няхай пачуе й бачыць той,
бачыць той,
Хто сьмее нам нясьці прымусы
І першы выкліча на бой.

Браты, да шчасьця мы падходзім
Хай гром грыміць яшчэ мацней!
Ў крывавых муках мы адродзім
Жыцьцё Рэспублікі сваёй,
жыцьцё Рэспублікі сваёй!

Я ўгледзіўся ў сваю мроі. Песьню сьпявау вайсковец. Аўтар. Беларускі афіцэр Краўцоў Макар, чые паэтычныя радкі пачуў сэрцам кампазытар Тэраўскі. А неўзабаве песьню засьпявала ўся Слуцкая брыгада войска Беларускай Народнай Рэспублікі... уся Беларусь.

Можа ўсё гэта занадта эмацыйна... Але, даруй мне чытач, інакш ня можна... інакш не атрымліваецца...

Між тым, размова на інтэрнэт-старонцы пра патрэбную песьню, працягвалася: “А калі прыедуць нас падтрымаць людзі, прыкладам, з Расеі, з Грузіі, з Украіны? Яны што, таксама на нашай мове засьпяваюць?” - пыталася ўдзельніца гутаркі Сьвятлана. І я падумаў, што яны могуць засьпяваць яе на міжнародный мове. Галоўнае, каб тэкст (і на ёй) зьявіўся на ўсіх сайтах, загучаў па радыё “Свабода”. Паўсюль. І нізкі паклон за пашырэньне ягонай даступнасьці спадарыні Веры Рыч:

Come, we shall march in joint endeavour
To the free spaces of our native land,
Let freedom dwell with us forever!
And every onslaught we'll withstand!

Long live the Belarusian spirit brave,
The bold free spirit of our nation!
White-red-and-white above the banners wave,
Above our fight for liberation!

To arms! May happiness and freedom
For our brave people in the fight be won;
Too long in torment we were bleeding,
To battle, each and every one!

Ah, may the Belarusian name and might
Be seen and head near and far
By all who seek to rule us without right
Or first dare challenge us to war.

My brothers, we march on to fortune;
Let thunder roar still louder in its strife!
We bring to birth in anguished torture
For our Republic a new life!

Вось так! І няхай пасьля гэтага нас памкнуцца абвінаваціць у нацыянальнай зашоранасьці! Няхай адважацца сказаць, што пакуль адная частка Беларусаў сьпявала “Багародзіцу”, другая стаўкла яе на порхаўку! Няхай толькі паспрабуюць абразіць, альбо ў які іншы спосаб закрануць наш нацыянальны гонар, і... мы выйдзем шчыльньмі радамі.

---

***Заканчэньне з папярэдняй бачыны***

Таксама хачу адзначыць, што перад 1-й Сусьветнай вайною аўстралійскія штабісты пісалі ў асобных справах эмігрантаў з расейскай імперыі: “Russian subjects”. Што практычна зьяўляецца самай праўдзівай інфармацыяй, бо эміграваўшыя з Расеі падаюцца як суб'екты імпэрыі, а не як расейцы, ці расейсканароджаныя.

Нажаль, дасьледчыца не карыстаецца ў сваёй кнізе гэтымі поўнавартаснымі словамі, а адразу пераводзіць іх “Russian nationals”, што мае ўжо вузейшы сэнс. Звужэньне гэтага сэнсу ідзе далей і “Russian nationals'” хутка ператвараюцца ў “Russian born”, што яшчэ больш уціскае “іншароццаў” (як іх звалі ў расейскай імпэрыі) у рамкі “расейцаў”.

Я напісаў спн. Говар, што лічу яе, нараджаную ў Беларусі, праваднічаю расейскай нацыянальнай палітыкі. Спн. Говар адказала, што расейскай нацыяналісткай яна сябе ня лічыць і падчас напісаньня кнігі шукала “агульназразумелыя” словы, і што яна не магла карыстацца словамі “Russian subjects” таму, што шмат хто з імігрантаў прынялі пазьней аўстралійскае грамадзянства. Даволі дзіўнае апраўданьне.

Таксама яна дадала, што ў англійскай мове няма эквівалентаў словам расейскі і расіяне, з чым можна (з нацягам) пагадзіцца. Але трэба тут адразу адзначыць, што словы расейскі і расіяне не азначаюць прыналежнасьць суб'ектаў расейскай імпэрыі да расейскай нацыі і стаяць далёка ад слова ‘Russian born’ ці расеец, ці нараджаны расейцам.

Хоць спн. Говар і патлумачыла шмат што ва ўступным слове сваёй кнігі, але было-б найлепш, каб яна пачала карыстацца словамі Belarus, Belarusians, а не прасавецкімі Byelorussia, Byelorussian. Ды й словы “Russian Poland” можна было-б напісаць праўдзіва: Poland, occupied by Russia. Таксама ўлепленыя спн. Говар на сваю вэб-старонку зьмененыя Лукашэнкам бээсасэраўскі сьцяг рэжа вока, але і шмат аб чым гавораць таксама.

Спн. Говар у сваіх размовах піша: “Фін ці этнічны расеец, асецін немец, эстонец, татарын, жыд ці паляк – Расейская імпэрыя была для ўсіх іх месцам нараджэньня і радзімай.” Поўнасьцю непагаджаюся зь ёе заявай аб тым, што шматкультурныя і рознаэтнічныя групы Расеі менавіта гэтай расейскай імпэрыяй яднаіся. Як бышцам не было паўстаньняў, ня жыў Кастусь Каліноўскі, як быццам усе тады сьпявалі нешта накшталт:“Широка империя моя родная”.

Я магу тут толькі ўзгадаць учынак майго дзеда Франака Кавалеўскага, якога “забрылі” ў імпэрскае войска падчас 1-ай Сусьветнай вайны. Бравы расейскі афіцэр крычаў маладым жаўнерам з розных расейскіх калёніяў, каб яны ішлі змагацца за вялікую імпэрыю-маці і цара-бацюшку. На што мой дзед выкрыкнуў, што бацька ў яго адзін, як і адзіная беларуская маці-зямелька. За гэты адважны выкрык атрымаў ён афіцэрскім кулаком у твар, але знайшоў моц падняцца і сунуў фігу пад нос таму афіцэру разам з ўсёй ягонай імпэрыяй. За што і павезьлі дзеда амаль на год ў турму, а адтуль на румынскі напрамак фронту. Пабілі, пашаматалі, наглытайся нямецкага газу, але прыкульгаў назад у свае Дзекшняны. Інакш-бы я гэты артыкул не пісаў-бы.

Дык несур'ёзная заява спн. Говар пра той факт, што жыхары расейскай імпэрыі лічылі яе ня толькі сваім месцам нараджэньня, але і матчынай зямлёй аддае савецка-імпэрскім інтэрнацыяналізмам.

Але нават ня гледзячы на прыхаваны расейскі імпэрыялізм, кніга спн. Говар мае вялікую каштоўнасьць для гісторыкаў-дасьледчыкаў беларускай эміграцыі. Калі я не памыляюся, гэтая кніга зьяўляецца першым гістарычным дасьледваньнем удзелу былых жыхароў расейскай імпэрыі ў змаганьні за інтарэсы Вялікай Брытаніі ў корпусе АНЗАК.

Зараз спн. Говар працуе над зборам дадзеных аб асобах, якія прыбылі ў Аўстралію да пачатку расейскай рэвалюцыі 1917 году. Яна адзначае, што знайшла нават “беларуса” сярод вязьняў, прывезеных ў 1804 годзе ў Тасманію (раней гэты аўстралійскі штат называлі Зямлёю Ван Дімэна). Беларуса таго звалі Джонам Патоцкім. Аб гэтым Алена напісала артыкул, які надрукаваў часапіс расейскіх імігрантаў у Аўстраліі “Австралиада”.

Дасьледчыкі, якія цікавяцца тэмай беларускай эміграцыі ў Аўстралію могуць знайсьці дэталі біяграфічнага і службовага характару жаўнераў розных славянскіх нацыянальнасьцяў на вэб-сайце: ***www.russiananzacs.narod.ru*** Жадаючыя дазнацца больш аб дасьледаваньнях спн. Говар знойдуць больш інфармацыі на вэб-сайце: ***www.elenagovor.narod.ru*** Той, хто цікавіцца вайсковымі запісамі Аўстраліі, можа наведаць Australian War Memorial (AWM): ***www.awm.gov.au***, зайсьці на *Biographical* і весьці пошук праз напрамак атрыманыя жаўнерамі ўзнагарод: *Roll of Honour, Honours and Awards*, таксама праз *Red Cros Wounded* і *Missing or POWs*. Кнігу спн. Говар можна замовіць на: ***www. unsw-press.com.au/isbn/0868408565.htm*** ці праз National Archives of Australia: ***https://shop.naa.gov.au/browse_cat.php?cat=38.***

***Віктар КАВАЛЕЎСКІ, Аўстралія***

# З гісторыі беларускай эміграцыі

## Запозьненае, але вельмі патрэбнае знаёмства

### Трэба абавязкова выдаць зборнік прозы Аўгена Кавалеўскага

*Ванкарэм НІКІФАРОВІЧ*

Даручыўшы складаць зборнік "Беларуская драматургія на эміграцыі", Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва даў мне магчымасьць пазнаёміцца з многімі рукапісамі й матар'яламі, што захоўваюцца ў архіве гэтай установы. Меркавалася, што спадчына актора, рэжысэра і пісьменьніка Аўгена Кавалеўскага – гэта, у асноўным, драматургічныя творы (шматактовыя, аднаактоўкі, скетчы, жарты, п'есы для дзяцей). Але якое было мае шчасьлівае зьдзіўленьне, калі сярод сьпісаных атрамантам на абодвух баках выцьвілых да гэтага часу аркушаў паперы я убачыў і прачытаў зусім не драматургічныя творы, а некалькі невялікіх апавяданьняў, прычым апавяданьняў найвышэйшай, на мой погляд, мастацкай якасьці, сапраўдных, нажаль, невядомых дагэтуль чытачам, пярлінаў беларускай прозы.

Пра Аўгена Кавалеўскага мы ведаем параўнаўча мала. Ён нарадзіўся 7 студзеня 1921 году, выхоўваўся ў дзіцячым садку, дзе выхавацелькай была Уладыслава Луцэвіч, жонка Янкі Купалы. Зь дзяцінства ён захапляўся тэатрам, удзельнічаў у спэктаклях Тэатра юнага гледача. Рана страціў бацьку, якога сталінскія сатрапы абвінавацілі ў "нацдэмаўшчыне". Займаўся ў школе пры Беларускім дзяржаўным драматычным тэатры, іграў у спэктаклях гэтага тэатру. З 1944 году Аўген Кавалеўскі жыў у Нямеччыне, арганізоўваў у беларускіх лягерох драматычныя і эстрадныя гурткі, ставіў спэктаклі і тэматычныя вечарыны, супрацоўнічаў зь беларускімі часапісамі, пісаў п'есы (некаторыя зь іх павінны быць апублікаваньня ў складзеным мною зборніку "Беларуская драматургія дыяспары"). Потым Аўген Кавалеўскі пераехаў у Парыж, працягваў пісаць п'есы і наладжваць сцэнічныя гурткі, быў адным з кіраўнікоў Беларускай незалежніцкай арганізацыі ў Францыі. 27 лістапада 1955 году ў зале Salle Iena ў Парыжы адбылася прэм'ера спэктакля па драме Аўгена Кавалеўскага "Асуджаныя". Ён сам паставіў гэты спэктакль і выконваў у ім адну з галоўных роляў. Пастаноўка выклікала вялікі рэзананс у французскай сталіцы. Памёр Аўген Кавалеўскі ў гарадку Раян у Францыі 13 жніўня 1963 году пасьля цяжкой хваробы.

Няма сумненьня ў тым, што многія рэаліі прозы Аўгена Кавалеўскага навеяны аўтабіяграфічнымі матывамі. Але вартасьць яе зусім ня ў гэтым. Зьдзіўляе, уражвае перш за ўсё яе высокаякасная мастакоўская фактура: як пісьменьнік валодае словам і стварае вобразную і сымбалічную структуру, як па-майстэрску прымушае чытача адчуць і міжволі ўвайсьці ў створаны ім, пісьменьнікам, адметны рытм (найскладанейшая якасьць у майстэрстве сапраўднай прозы) і інтанацыю, дзе на дзіва ўдала спалучыўся эмацыянальны і рацыянальны пачатак. Беларуская мова гучыць у Аўгена Кавалеўскага на ўзроўні іншых эўрапейскіх моваў у сацыялягічным і мастакоўскім кантэксьце; калі нашая адметнасьць і нашая сувэрэннасьць – літаратура, дык творы Аўгена Кавалеўскага – значны фактар гэтага разуменьня.

У аснове ягоных апавяданьняў – споведзь, але не зацвузка суб'ектыўная; у падтэксце кожнага твору адчувальны няспынны працэс мастацкага аналізу і абагульненьня. Адсюль, магчыма, і амаль бясспрэчная ўзорная кампазыцыйная завершанасьць апавяданьняў Аўгена Кавалеўскага. Можна шмат цытаваць зь ягонай прозы і дзівіцца натуральнасьцю і нязмушанасьцю ягонай вобразна-рытмічнай плыні і адначасова ўмельствам трымаць нутраную сюжэтна-фабульную напружанасьць.

Але, як мне здаецца, ня толькі моўна-вобразнае багацьце прыцягне ўвагу сёньняшніх чытачоў да гэтай прозы. Надзвычай актуальны яе адраджэнскі матыў, яе сугучча многаму, што хвалюе нас сёньня. Аўген Кавалеўскі ў гісторыі нашай літаратуры бачыцца папярэднікам Брыля, Быкава, Пташнікава, Казько, Стральцова. Упэўнены, што беларуская літаратура ня толькі ў нацыянальным кантэксьце можа ганарыцца такой навэлістыкай; чытаючы яе, узьнікаюць асацыятыўныя паралелі з асобнымі апавяданьнямі заходнеэўрапейскіх і лацінаамэрыканскіх майстроў... Адразу зьнікае і "ружовы туман", і ўсе развагі пра нібыта "несамадастатковасьць" беларускай літаратуры ў 20-м стагодзьдзі. Праблема толькі ў тым, што мы, нажаль, ня ўсё яшчэ ведаем, – такое было жыцьцё. Можа, іх ня так і шмат, выдатных дасягненьняў беларускай літаратуры і мастацтва, але яны, як сказаў яшчэ Максім Багдановіч, "ня толькі свайму народу, але і ўсясьветнай культуры... нясуць свой дар".

На пачатак знаёмства з творчасьцю Аўгена Кавалеўскага прапануем адно зь лепшых ягоных апавяданьняў – "Я мушу жыць!", якое мае філязофскі падтэкст, што ня страціў сваёй актуальнасьці й сёньня.

*Аўген КАВАЛЕЎСКІ*

## Я мушу жыць!



Была восень.

У далі, на вуліцы, за шпітальнымі мурамі жаласна стагнаў вецер, зрываючы з дрэваў апошнія счарнелыя лісты. А тут, дзе я ляжаў, у начным змроку палаты жудасна храпеў мой сусед.

Ён паміраў...

Я бачыў зусім выразна, як у цьмяным сьвятле вулічных ліхтароў, якое прабівалася праз высокія шпітальныя вокны, падоўжваўся, бялеў ягоны худы твар з вачыма, залітымі сьмяртэльнай жудасьцю, з разьзяўленым ротам, страшнымі, сьлюнявымі зубамі, і дзікі, нявымоўны жах раптоўна агарнуў маю душу. Замільгацелі маланкава думкі: мне прыгадалася, як яшчэ ўдзень галасіла над маім ложкам маці, як моўчкі, жаласьліва глядзела на мяне санітарка, і я толькі цяпер зразумеў, што й я, відаць, дажываю апошнія гадзіны, што й па мяне чакае сьмерць...

Я закінуў на галаву падушку й моцна заціснуў яе рукамі, каб нічога ня чуць, ня бачыць, каб толькі ня думаць аб ёй, аб сьмерці, ня думаць!

Праз якую гадзіну сусед мой сьціх... Зьявіліся дзьве маўклівыя здані санітараў, моўчкі, звыклымі рукамі пакалі ягонае цела на насілкі й... зьнікі за дзьвярыма палаты. А я плакаў пякучымі дзіцячымі сьлязьмі, кідаўся ў прыступе гарачкі на сваім ложку, клікаў кагосьці, але... ніхто не прыйшоў, каб усьцішыць мой боль, супакоіць мяне.

Раніцою санітарка прынесла мне маленькі пакунак. Гэта быў таўсты сшытак майго духовага настаўніка і старэйшага сябры – пісьменьніка Б. М. Там было колькі малых апавяданьняў пад агульным назовам "Маладыя гады". На першай старонцы чарнеліся дробныя, старанна выпісаныя літары: "Прысьвячаю майму маладому сябру Аўгену К." Крыху ніжэй, ужо большымі літарамі, быў выпісаны нейчы афарызм:

*Ты мусіш жыць,*
*Каб змагацца за волю,*
*І за прышласьць народу свайго!*
*Ты мусіш жыць,*
*Каб праз долю-нядолю*
*Несьці ў край наш надзеяў сьвятло!*

І я не памёр. Я застаўся ў жывых, каб жыць!

Але было-б лепш, каб я памёр тады ў шпіталю, чымсьці даведацца, што майго сябра ўжо няма. У часе мае хваробы ён быў засуджаны на 15 гадоў прымусовых прац "без права переписки" за «нацдемовский уклон в области белорусской литературы». Нягледзячы на малы ўзрост (мне было тады 13 гадоў), я ўжо добра ведаў, што гэта мае значыць, – Сібір, голад, марудная, але пэўная смерць... Ад таго часу прайшло мала ня тры гады. Маладое бурлівае жыцьцё неяк вылячыла мяне ад роспачы, але ня здолела сьцерці з мае душы гэтага глыбокага, балючага сьледу.

* * *

Надышоў жудасны 1937 год. Ізноў над маёй галавой скучыліся чорныя хмары. Ды ці-ж толькі над маёю? Менск, як і ўся падсавецкая Беларусь, былі апанаваныя жахамі «яжоўшчыны». Людзі, прыгнечаныя гэтымі жахамі, цураліся адно аднаго, палохаліся собскіх слоў, думак, і нават у сваіх найлепшых сяброх падозрвалі згубцаў? падасланых агентаў НКВД. Адны, пры надыходзе вечаровых змрокаў, хаваліся па сваіх кватэрах, напружана прыслухоўваючыся да кожнага гуку, які даносіўся знадворку, з вуліцаў, і дрыжэлі, чакаючы на «зялёных госьцяў» да позьняе начы, аж пакуль сон не заваладваў імі. Іншыя ў гэтым часе панура пілі гарэлку па сталовых, клюбах, рэстаранах, пілі без меры, прапівалі свой жалю годны заробак, імкнучыся гэтым сьцішыць свой жах перад рэчаіснасьцю, «запіць» яго моцнай «Маскоўскай». А «чорны воран», як ашалелы, насіўся па вуліцах Менску, і сотні інтэлігентаў, рабочых, урадоўцаў кожную ноч зьнікалі ў ягонай ненасытнай, пражэрлівай пашчы. Мала ня кожная сям'я панесла яму ў ахвяру роднага або блізкага сабе чалавека...

Заўчора забралі двух нашых найлепшых прыяцеляў, учора – майго дзядзьку, а сяньня... сяньня была чарга майго бацькі. Прыйшоўшы з працы, ён гэтак і сказаў:

- Сяння прыедуць за мною.

І, запраўды, у дзьве гадзіны ночы мы пачулі моцны грукат у дзьверы. Маці спалохана ўсхапілася з ложка, падбегла да дзьвярэй, але рукі ейныя гэтак дрыжэлі, што яна доўга не магла іх адамкнуць. За гэты час бацька мой, чалавек моцнай волі, хутка апрануўся й, відаць, аваладаўшы сабою, зьнешне спакойны, цярпліва чакаў на ночных «гасьцей», склаўшы на грудзёх рукі.

Дзьверы адчыніў я. У кватэру ўскочылі трох чырвонаармейцаў са стрэльбамі й двух старэйшых сяржантаў НКВД. Без выбачэньня, з мацернаю лаянкаю кінуліся яны раскідваць у пакоях нашую адзежыну, падушкі, сшыткі ды фотакарткі, усё нечага шукаючы. Маці, зваліўшыся на ложак, сьціху, прыглушана плакала, малодшы брат мой, гэтак несподзявана ўзбуджаны, галасіў на ўсю кватэру, а я стаяў, як аслупянелы, не разумеючы таго, што рабілася навокал мяне. Па «вобыску» загадалі бацьку апрануць паліто, маці падала яму загадзя падрыхтаваны клуначак зь бялізнаю.

Надышла часіна нашага разьвітаньня з бацькам. Ён, стараючыся ўсьміхацца, пацалаваў маці, падбадзёрваючы яе словамі, сьмешнымі і непатрэбнымі ў гэтую часіну, а потым прыціснуў да грудзёх сваіх майго брата, які ўшчэ мацней загаласіў. Але калі дайшла чарга да мяне, я ня вытрываў: кінуўся яму на шыю, моцна ўчапіўся за яго рукамі й нейкім не сваім, чужым голасам праз сьлёзы ды ўсхліпы выгукнуў:

- Бацька, я загіну, я не хачу жыць без цябе!

Ён адарваў ад сябе мае рукі, паставіў мяне на падлогу й, выразна гледзячы ў мае вочы, ціха, але пераканальна сказаў:

- Замалады яшчэ... Ня варта... Будучае тваё ад цябе залежыць. Ты мусіш жыць!

І гэта былі ягоныя апошнія словы.

* * *

Мінаіся гады за гадамі, раскладаліся перад маім зрокам калейдаскапічнымі малюнкамі, – былі і шэрыя, і чорныя, сумныя дні, былі зрэдку й сьветлыя, сонечныя, поўныя маладосьці й бесклапотнай радасьці. Адзін гэткі сонечны дзень прынёс мне знаёмства з прыгожай і разумнай дзяўчынай. Ёй было 19 гадоў. Будучы студэнткаю філялёгічнага факультэту на менскім унівэрсытэце, яна захаплялася вывучэньнем гістарычных і літаратурных твораў, якія адносіліся да слаўнае мінуўшчыны нашае Бацькаўшчыны, і дзеля гэтага была ўся перапоўненая гордага пачуцьця, што й беларус можа ганарова насіць імя чалавека ў сям'і наслаўненшых народаў сусьвету. Усё ейнае маладое жыцьцё асьвятлялася непамернай любасьцю да нашага народу, запраўдным патрыятызмам. Энэргічная, поўная жыцьця й руху, сьведамая нацыяналістка, яна адразу скарыла маё сэрца. Я ўпершыню закахаўся тады гэтак палка, як толькі можна кахаць у гарачыя юнацкія гады. Яна была для мяне ня толькі сардэчным сябрам, але й маім духовым кіраўніком, маім сьветачам. Мы разам здабывалі грошы, каб закупляць у прыватных зборак забароненых ў той час некаторыя беларускія часапісы й кніжкі, часта выязджалі ў вёскі, дзе яна запісвала народныя казкі ды песьні, зарганізавалі вакол сябе літаратурны гурток з нашых бліжэйшых прыяцеляў, крытыкавалі новыя рэчы

*Заканчэньне на бач. 9*



# Весткі й Паведамленьні

нью ёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: www.baza-belarus.org №3 (485)

# Лютаўскі сход аддзелу БАЗА ў Нью Ёрку

Чарговы сход Нью Ёрскага аддзелу БАЗА прайшоў 19 лютага. Напачатку сходу сп. Віталь Зайка азнаёміў прысутных з падзеямі ў Беларусі за апошні месяц. Ён у прыватнасьці ўзгадаў збор подпісаў за кандыдатаў у прэзыдэнты Беларусі, рэгістрацыю кандыдатаў і падзеі вакол надыходзячых прэзыдэнцкіх выбараў 19 сакавіка. Сп. Зайка заклікаў прысутных прыняць 19 сакавіка ўдзел у акцыі падтрымкі дэмакратыі ў Беларусі.

Затым з аналізам сытуацыі ў Беларусі выступіў Старшыня Беларускага Народнага Фронту Зянон Пазьняк. Ён у прыватнасьці сказаў: «Сытуацыя, што прывяла да выбараў бяз выбару, ужо склалася канчаткова. Машына фальсыфікацыяў, якую карыстае рэжым, не падлягае кантролю. Па схеме, накінутай рэжымам, немагчыма перамагчы. Менавіта таму мы прапанавалі народнае галасаваньне — працэдуру, якая магла-б зламаць гэтую машыну фальсыфікацыяў. Хачу асобна адзначыць, што я не адмаўляюся ад выбараў. Ініцыятыўная група набрала дастаткова подпісаў, людзі шмат працавалі на гэта. Але рэжым пачаў шалёны перасьлед, цiск — пайшлі ўльтыматумы ад Ярмошына, што подпісы не прызнаюць, адбыліся арышты нашых людзей. У Жодзіне нават аўтаматчыкі былі прыцягнутыя для тэрарызаваньня нашых прыхільнікаў.

Мы сабралі 135 тысяч подпісаў — можна было выходзіць на выбары, і тут паўстала пытаньне: ісьці або не. Думкі падзяліліся, але ў выніку перамагло рашэньне пра тое, што подпісы ня варта аддаваць у ЦВК. Народнае галасаваньне сталася адзінай альтэрнатывай плянам рэжыму. Іншыя прэтэндэнты цяпер фактычна легітымізуюць трэйці тэрмін Лукашэнкі. Гайдукевіч — гэта страховачны варыянт рэжыму на выпадак калі ўсе апазыцыйныя прэтэндэнты здымуць свае кандыдатуры, маўляў, у нас дэмакратыя, два кандыдаты. Паглядзім на Казуліна — гэта кадр з старой савецкай картатэкі. Пракалоўся з купляй подпісаў пад зваротам да грамадзкасьці, людзі сталі пратэставаць, што подпісы ня ставілі. Папрасіў прабачэньня, замялі. Цяпер — купля подпісаў на рэгістрацыю, па даляру за подпіс. Казулін — запасны варыянт Масквы. У 1994 годзе Масква паставіла на Кебіча, але потым зрабіла ракіроўку. Ракіроўка магчымая і гэтым разам, калі Лукашэнка зь якойсьці прычыны выраўшыць адыйсьці ад улады й мець гарантыі недатыкальнасьці. Ён ня мае права балятавацца. Калі-б не прызналі подпісы за Мілінкевіча, то Казулін пераняў-бы ўсе галасы апазыцыі. І тут зноў-жа, працэдура народнага галасаваньня — адзіны спосаб рэальна даведацца пра волю народу, пра несфальсыфікаваны вынік выбараў. Праца створанай Беларускім Вызвольным Рухам Нацыянальнай Грамадзкай Камісіі па нагляду за выбарамі — адзіны спосаб супрацьстаяць ашуканству. Выбаршчыкі, народ, рэалізуюць свае права і ажыцьцяўляць сваю ўладу непасрэдна, перадаўшы ў НГК выбарчыя бюлетэні. Наступнае адхіленьне народам ад улады пра-маскоўскага рэжыму адчыніць дарогу да сапраўды вольнай і незалежнай Бацькаўшчыны».

Сп. Пазьняк паінфармаваў аб прынцыпах народнага галасаваньня, і як яно будзе канкрэтна праводзіцца.

Затым з гутаркай пра Літву, старажытныя гістарычныя назоў Беларусі, у цыклі лекцыяў па гісторыі, выступіў Старшыня Галоўнай Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня Антон Шукелойць. Ён адзначыў, што трэба памятаць гістарычныя назвы і шанаваць іх, бо яны адлюстроўваюць нашу гісторыю. "Літва", "літоўцы" або "ліцьвіны" — гэта назва нашых продкаў, якая была фактычна скрадзеная суседзямі-жамойтамі ў другой палове 19-га стагодзьдзя. Без асэнсаваньня гэтага факту мы губляем амаль усю нашую гісторыю, з часоў Вялікага Княства і пазьней. Гэтага дапускаць нельга.

Затым з інфармацыяй пра акцыю пратэсту ў Вашынгтоне выступіў сп. Вячка Станкевіч. Спн. Валя Якімовіч прапанавала ўзнавіць традыцыю сьпяваньня беларускіх нацыянальнага і рэлігійнага гімнаў на паседжаньнях аддзелу.

Прагучэлі аб'явы й паведамленьні. Пасьля гэтага прысутныя мелі таварыскія размовы зь сябрамі й гасьцямі аддзелу пры кубку кавы й пачастунках.

**Віталь ЗАЙКА**

## Уплаты ў нью ёркскі аддзел БАЗА:

**Ахвяраваньні й складкі:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Б. Андрусышын | 50 | З. Левіт | 30 |
| Ю. Андрусышын | 30 | А. Орса-Романо | 30 |
| А. Варанцова | 30 | Н. Ронжына | 30 |
| В. Дворнік | 30 | С. Рошчык | 30 |
| В. Едзіновіч | 30 | В. Страшкіна | 30 |
| А. Колбун | 30 | К. Шаўчэнка | 30 |

**Шчыры дзякуй!**

# Наступны сход

нью ёркаўскага аддзелу БАЗА адбудзецца ў нядзелю, **12 сакавіка 2006 году** ў грамадзкай залі пры Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне па адрасу:

**401 Atlantic Avenue (Bond Street), Brooklyn, NY 11217**

Пачатак а 12-й гадзіне папаўдні.

Запрашаюцца ўсе, каму неабыякавыя свабода і дэмакратыя ў Беларусі.

Даезд цягнікамі падземкі **A, C** да станцыі **Hoyt-Shermerhorn Street**, або падземкі **F** да станцыі **Bergen Street**.

**Уплаты дасылайце на адрас:**

*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*

**Чэкі выпісвайце на** *Belarusan American Ass'n.*

## Я мушу жыць!

*Заканчэньне з бач. 8*

савецкіх пісьменьнікаў, паэтаў, самі пісалі вершы, апавяданьні, драмы, якія тады не маглі друкавацца, і спрачаліся, спрачаліся бясконца аб прышласьці нашае Бацькаўшчыны. Дні ляцелі гэтак шпарка й гэтак бадзёра, мы ўпэўнена крочылі разам наперад, што не пасьпявалі азірацца вакол сябе, не заўважалі, міналі ўсё тое горкае, абрыдлае, непрыемнае, што спатыкалася ў нашым жыцьці.

І я, здавалася, быў найшчасьлівейшым чалавекам, калі аднойчы яна прызналася, што жадала-б гэтак, рука ў руку, ісьці разам са мною далей, праз усё жыцьцё! Мы самі выбралі тэрмін нашага вясельля, прызначыўшы яго на вясну, і пачалі паступова падрыхтоўвацца да гэтага дню. Мае пачуцьці й думкі былі запоўненыя толькі гэтым. Але калі, нарэшце, надыйшоў гэты тэрмін, і цёплае вясновае сонца радасна заблішчэла над намі, сталася жудасная неспадзёўка: Ніна (гэтак звалі маю нарачоную) раптоўна захварэла на тыфус. Лекары на мае трывожныя запытаньні безнадзейна махалі рукамі, бо ейнае сэрца было надарванае, занадта слабое, каб вытрываць цяжкасьць гэтае хваробы.

Бязьмежнае гора ахапіла мяне. Безнадзейнасьць, роспач спаралізавалі маё жыцьцё. Я пачаў зусім сур'ёзна думаць пра самагубства, бо не ўяўляў сабе жыцьця без яе, без Ніны. І гэта неўзабаве надыйшло... Я й да гэтага часу выразна бачу перад сабой той апошні, жахліва-смутны вечар, які я правёў ля ейнага ложку. Яна ляжала зьнясіленая, бледная, цяжка дыхала. Ружовыя праменьні вечаровага сонца, прабіваючыся праз густое зяленіва дрэў, што білі за вокнамі, як-бы развітваліся зь ёю й мякка, пяшчотна сьлізгаталі па ейнаму мармуроваму твару, па ейных даўгіх чорных косах, якія раскідаліся на бакі падушкі, па ейных прыгожых, бездапаможна апаўшых руках. Яна нешта сьціху мармытала. Ледзьве валодаючы сабою, сьцяўшы губы, каб не расплакацца ўголас, я нізка нахіліўся над ейным тварам, прыслухоўваючыся. Ейныя бледныя вусны выразна шапталі:

- Мы яшчэ нічога не зрабілі... Для сябе, для людзей... Змагайся за шчасьце для ўсіх... Працуй, не лянуйся... Здольнасьцяў тваіх на гэта стане... Раскідай зьмрок, у якім жывуць людзі вакол нас... Няхай гэта станецца тваім абавязкам, тваёю мэтаю жыцьця... А я... Я, відаць, хутка памру... Можа, нават, сяньня... Гэткі мой лёс... Але ты... Ты мусіш жыць!

На другі дзень, а шостай гадзіне раніцы яна памерла.

***

Прайшлі цяжкія, жудасныя гады вайны. Я не загінуў ад куляў, мяне ня раніла снарадам, не парвала бомбаю, – я ізноў застаўся ў жывых, каб жыць... Але – дзеля чаго? Ды, увогуле, ці варта жыць? Вось ужо мінае чацьверты год, як я, адарваўшыся ад свае Бацькаўшчыны, гэтак-жаж, як і тысячы маіх суродзічаў, прымушаны жыць з чужое ласкі на чужой зямлі. Кожны надыходзячы дзень я спатыкаю з трапяткою надзеяю, спадзеючыся, што вось ён нарэшце прынясе даўгачаканую радасьць, раскуе ланцугі, якімі закаваная цяпер мая Радзіма! Але – дарма: кожны новы дзень прыносіць мне толькі новыя кроплі смутку й жалю... І гэтак павольна й балюча, кропля за кропляю, на працягу чатырох гадоў уліваюцца ў маю душу гэныя пачуцьці. І здаецца, што няма ім выйсьця. Міжвольна ападаюць рукі, ня хочацца працаваць, калі цьвяроза зазірнеш у сваю будучыню, дзе чакае безнадзейнасьць і хуткая старасьць. І часамі, калі я знаходжуся адзін у сваім пакою, мне здаецца, што гэткае жыцьцё ня мае сэнсу, бо жыць выключна для сябе, для свайго "жывота" – ня варта. У гэткім настрою міжвольна напльваюць пэсымістычныя думкі, верыцца ў тое, што толькі сьмерць можа пазбавіць чалавека ад гэтае гнятучае роспачы...

Але гэта здараецца толькі часамі і на кароткі момант. Чалавек збудаваны гэтак, што ў ім вера ў лепшае перамагае найжахлівейшую роспач. І тыя словы, якія сталіся ў маім жыцьці найдаражэйшым дэвізам, тыя тры словы – "Ты мусіш жыць" – заўсёды гучаць для мяне, як зманлівы падбадзёрваючы кліч.

*... Ты мусіш жыць,*
*Каб праз долю-нядолю*
*Несьці ў край наш надзеяў*
*сьвятло!*

І я жыву, упэўнена крочу па жыцьцю, бо ведаю, што ў цяжкія, роспачлівыя часіны гэны кліч: "Ты мусіш жыць!" ня дасьць мне загінуць.

Так, я мушу жыць!

**Остэргофэн, травень, 1949 г.**

# Маладзёвая

*Пішыце нам на адрас: moladz_bielarus@tut.by*

## Цытата нумару:

Добры пачатак - палова справы.

*(Плятон)*

Маладзёвы сэмінар,прысьвечаны пытаньням беларускай моладзі ў ЗША, адбыўся 28 студзеня 2006 году ў Нью Ёрку. Сэмінар стаў пачаткам дзейнасьня беларускай маладзёвай арганізацыі, якая ставіць мэтаю аб'яднаньне маладых беларусаў, якія жывуць, працуюць альбо вучацца ў ЗША. Ня гледзячы на вялікую колькасьць беларускай моладзі, сьвядомай і ідэйнай, бадзёрай і ахвочай служыць свайму народу, справе ягонай незалежнасьці ды ідэі вольнай Беларусі, доўгі час у ЗША адсутнічаў цэнтар, праз які беларуская моладзь магла-б мець зносіны паміж сабою. На сэмінары было вырашана праводзіць сустрэчы рэгулярна, каб абмяркоўваць нашыя надзённыя справы й праблемы.

Галоўнымі задачамі й мэтамі нашага аб'еднаньня зьяўляецца выхаваньне ў моладзі павагі да дэмакратычных каштоўнасьцяў і традыцый беларускага народу, да беларускай культурнай, гістарычнай і духоўнай спадчыны; данясеньне неабходнасьці ўжываньня беларускай мовы, дапамога ў вырашэньні практычных праблемаў, зь якімі сустракаюцца новапрыбылыя ў ЗША. Мы ўпэўненыя,што тыя, хто аднойчы прайшоў праз праблемы бюракратычнага і псыхалягічнага характару, могуць падзяліцца сваім вопытам, параіць, проста па-сяброўску падтрымаць. Мы ставім сабе задачу гуртаваць беларускую моладзь у ЗША ды адпаведнай дзейнасцю ўзгадоўваць яе ня толькі на добрых людзей і добрых грамадзянаў Амэрыкі, але й на добрых Беларусаў, якія любяць Бацькаўшчыну, сваю родную мову, звычаі, ведаюць сваю гісторыю ды працягваюць змаганьне за незалежнасьць Беларусі.

Усіх,хто падзяляе нашыя ідэі, мы з задавальненьнем запрашаем да супрацоўніцтва.

*Рада беларускай маладзёвай арганізацыі ў Нью Ёрку*




*16 лютага сёлета ў межах Дня Салідарнасьці з паняволенымі й зьніклымі ў Беларусі прайшоў пікет ля беларускай амбасады ў Вашынгтоне. Да ўдзельнікаў акцыі далучыліся кангрэсмэн Тадэус МакКотэр і амбасадар Славаччыны ў ЗША. Акцыю правяла арганізацыя "Погляд".*

# Гарвард вачымі беларускай студэнткі

***Алена БІБЕРМАН вучыцца ў асьпірантуры ў Гарвардзкім унівэрсытэце. Яна зьяўляецца адною зь нешматлікіх беларускіх студэнтаў, якім пашанцавала вучыцца ў гэтай прэстыжнай навучальнай ўстанове. У мінулым сэмэстры Алена стала першаю студэнкаю, якая пачала вывучаць там беларускую мову. Нагадаем, што курс беларускай мовы ў выкладаньні прафэсара Вулгайзэра, вядомага беларусаведа, быў упершыню ўведзены восеньню мінулага году. Я пагутарыла з Аленаю пра яе ўражаньні ад вучобы ў Гарвардзе.***



**Алена, па-першае, хацелася-б пачуць крышачку пра цябе, дзе вучылася раней.**

Нарадзілася я ў Бабруйску. У ЗША жыву ўжо 13 гадоў. Ступень бакаляўра я атрымала ў Каледжы Вэлеслі ў штаце Масачусэц. На трэцім курсе мне пашанцавала год вучыцца ў Оксфардзкім унівэрсытэце ў межах праграмы навучаньня за мяжою. Прыкмента, што Каледж Вэлеслі лічыцца справедвечна жаночым. У ім вучыліся Гілары Клінтан і Мадэлін Альбрайт. У час вучобы ў Оксфардзе я сур'ёзна зацікавілася міжнароднымі адносінамі і па вяртаньню паступіла на Ганаровую праграму міжнародных адносінаў. У яе межах я займалася вывучэньнем зьнешняй палітыкі Амэрыкі й Расеі.

**Чаму ты вырашыла вучыцца менавіта ў Гарвардзе, які славіцца як выключнай адукацыяй, так і высокімі патрабаваньнямі ў прыёме студэнтаў? Цяжка было туды паступіць?**

Прызнацца, у мяне была мара паступіць у Гарвард. У юнацтве думка пра гэта была для мяне больш сымбалічнай, чымся рэальнай мэтай. Гарвард успрымаўся як сымбаль інтэлектуальнага посьпеху і сапраўднай магчымасьці развіцця асобы. Гэта была высокая мэта, да якой можна было імкнуцца. Пасьля Вэлеслі я вырашыла выпрабаваць свае магчымасьці – і паступіла ў Гарвард. Дзень, калі я даведалася аб гэтай радаснай навіне, быў адзін з самых шчасьлівых у маім жыцьці.

**Ты гаворыш, што паступленьне ў Гарвард стала зьдзяйсьненьнем тваёй мары, але гэта не абышлося без стараннай вучобы. Сярод моладзі бытуе стэрэатып, што ў такіх унівэрсытэтах як Оксфард, Гарвард, вучацца толькі геніі. Ці лічыш ты сябе геніяльнай? Не магла-б ты падрабязьней распавесьці нашым чытачам, што неабходна, каб паступіць у Гарвард? Якія крэтэрыі заліку студэнтаў?**

Калі буду лічыць сябе геніяльнай, выяўлю сваю неразумнасьць. У Амэрыцы цэняць працавітых і тых, хто, пераадольваючы перашкоды, дабіваецца сваёй мэты. Я адношу сябе да людзей гэтай катэгорыі. Мне здаецца, што пытаньне ўвогуле ня ў тым, ці геніяльны чалавек, а які ўнёсак ён можа зрабіць у будучыню грамадства.

Для паступленьня ў Гарвард, як у асьпірантуру, так і дактарантуру, неабходныя выдатныя адзнакі, рэкамэндацыі ад выкладчыкаў і ўяўленьне пра навуковую мэту. Пажадана, каб быў вопыт па тэме, у межах якой будуць праходзіць навуковыя дасьледваньні. Я-б параіла паразмаўляць непасрэдна з выкладчыкамі ўнівэрсытэту, якія спэцыялізуюцца ў тыхжа студыях. Адным з галоўных момантаў, канешне, зьяўляюцца іспыты TEFFEL і GRE. Мне здаецца, што, ня гледзячы на ўсе папяраднія акалічнасьці, вельмі шмат залежыць ад самага студэнта, ад таго, як напісанае сачыненьне ў анкеце, дзе ён прызэнтуе сябе.

**Алена, якія твае ўражаньні ад вучобы ў Гарвардзе?**

Гарвард спалучае з сабе выдатных выкладчыкаў і рэсурсы. Некалі мне казалі, што студэнт такой установы павінен выбраць два сярод трох: сябрамі, вучобаю і сном. Я адразу зразумела, што людзі праўду казалі.

**На інтэрнэт-старонцы беларускага студэнцтва зьявіўся артыкул, у якім прапаноўвалася прыняць удзел у апытаньні, якое ты праводзіш сярод моладзі. Гэта датычыцца толькі беларускай моладзі, ці ты адначасова праводзіш апытаньне сярод прадстаўнікоў іншых краінаў Усходняй Эўропы? Як гэтае апытаньне ўкладваецца ў кантэкст тваёй навуковай працы?**

У межах свайго дасьледваньня Ўсходняй Эўропы я параўноўваю моладзь Беларусі, Украіны й Расеі. Увага акцэнтуецца на такіх асьпэктах як рысы, якія адрозьніваюць прадстаўнікоў розных краінаў, як моладзь адрозьніваецца ад папярэдняга пакаленьня, якое іх стаўленьне да палітыкі, і якой яны бачаць сваю ролю ў будучым краіны. На маю думку, першае пост-савецкае пакаленьне зараз становіцца самым уплывовым палітычным пластом. Скарыстае маладое пакаленьне свой патэнцыял ці "ўвойдзе ў агульную каляіну" – адзін з галоўнейшых чыньнікаў будучыні кожнай з краінаў.

**Са словаў сп. Вулгайзэра, курс беларускай мовы быў уведзена толькі ў мінулым сэмэстры. Як табе спадабаўся гэты прадмет?**

Беларусь – адная з краінаў, па якой я маю намер спэцыялізавацца. Беларуская мова пераважна выкарыстоўваецца апазыцыяй, а мяне асабліва цікавяць інтарэсы гэтай сацыяльнай групы. Гэта яшчэ раз падкрэсьлівае, што замежніку нельга зразумець Беларусь бяз веданьня беларускай мовы.

Я не ўпэўненая, ці была я першаю студэнткаю, якая вывучала беларускую мову ў прафэсара Вулгайзэра. Тым ня менш, на сёньня я адзіная, хто займаецца беларускаю моваю ў гэтым ўнівэрсытэце. Што датычыцца прафэсара Вулгайзэра, ён выдатна валодае моваю. Разам мы ўзяліся за тарашкевіцу. Яшчэ жывучы ў Беларусі, я вывучала беларускую мову да пятай клясы, але толькі цяпер я зразумела наколькі гэта багатая, каларытная мова. Прафэсар Вулгайзэр па-сапраўднаму любіць беларускую культуру, і ягоная энэргія надала імпэту і мне. Ягоны курс скіраваны на студэнтаў майго ўзроўню, таму прадмет атрымоўваецца асабліва карысным.

**Ці ёсьць у гарвардзкім студэнцкім асяродзьдзі беларуская моладзь?**

Мне-б вельмі хацелася, каб такое асяродзьдзе зьявілася, але пакуль да гэтага яшчэ далёка.

**Якія твае пляны на будучыню?**

Спадзяюся прымаць актыўны удзел у палітыцы. Зараз пляную працягваць вучобу на ўзроўні дактарантуры. Таксама спадзяюся зьездзіць у Беларусь у наступным годзе, каб працягваць там сваю працу і папрактыкавацца ў беларускай мове.

*Гутарыла Дамініка КНЯЖНІНА*

# бачына

## Маладзёвы погляд

# Змаганьне за Твой Колер

**Шаноўныя чытачы, друкуем гэты артыкул з надзеяй працягнуць дыскусію і пачуць вашыя меркаваньні наконт колеру маладзёвага змаганьня за свабоду ў Беларусі. Ці трэба шукаць альтэрнатыву традыцыйнаму бел-чырвона-беламу колеру беларускай незалежнасьці й свабоды?**

Кожнае пакаленьне выбірае свой "кіч". Пад гэтым паняцьцем разумеюць масавае мастацтва для абраных, дзе кожная дэталь напоўненая сэнсам і разьлічаная на падрыхтаванага гледача. Дапасаваўшы сэнс кіча да беларускай рэальнасьці, бачым, што "абраныя" ў нашым выпадку "неабыякавыя" людзі, якія выбіраюць сваё "мастацтва" ці грамадзянскую пазыцыю. Свой выбір яны выказваюць праз "колер", які й ператвараецца ў кіч. За апошні год нават самы палітычна нэйтральны беларус засвоіў навуку сымболікі колераў. Толькі сэнс іх каардынальна зьмяніўся. Чырвоная ружа перастала быць сымбалем палымянага каханьня. Цяпер яна азначае любоў да свабоды. Аранжавы таксама больш ня толькі колер апельсіна і вясёлага настрою — за ім змаганьне і перамога.

На шэрыя, засьнежаныя вуліцы беларускіх гарадоў ўварваліся колеры, якія імкнуцца перайначыць жыцьцё. Як самы мабільны й энэргічны слой грамадзтва моладзь мамэнтальна адрэагавала на новую каляровую палітру. Маладое пакаленьне беспярэпынна намагаецца падкрэсьліць сваю адметнасьць праз пэўную "фішку": музыку, слэнг, вопратку альбо жыцьцёвы стыль ўвогуле. Прадоўжвае гэты пералік канцэпт колеру, які цудоўна ўпісаўся ў маладзёвую моду. Паглядзім на беларускую моладзь. Нехта жыве сабе, вучыцца, бавіць час з сябрамі, папросту "тусуецца". Ён праходзіць, людзі не вылучаюць яго сярод натоўпу. Другі, зусім падобны да першага, апранае джынсы й белую футболку з надпісам у восем чырвоных літараў, якія ён вымушан хаваць за курткаю, павязвае джынсавую тканіну на заплечнік, выходзіць на вуліцу. Ён ідзе зь сябрамі. Не прамовіўшы ні слова, яго разумеюць мінакі. Маючы колер, словы не патрэбныя.

Размова пра каляровыя рэвалюцыі вядзецца ня першы месяц. Ружовы, памаранчавы, белчырвона-белы колеры для кожна сымбалі змаганьня і незалежнасьці. Побач зь імі зьявіліся новыя колеры: блакітны, васільковы, джынсавы. Блакітны — колер аб'яднанай Эўропы, а значыць і пэрспэктывы, якая згубілася сярод "чырвона-зялёных плямаў". Васільковы быў прапанаваны як альтэрнатыва бел-чырвона-беламу з мэтаю зрабіць моладзь больш мадэрновай. Ня вытрымаўшы націску з боку традыцыйнай "палітры", ён адыйшоў убок. Яму на зьмену прыйшоў джынс. Фэномэн джынсу грунтуецца ў ягонай геніяльнай простасьці й нечападзяванай адкрытай канспэратыўнасьці. Амаль стагодзьдзе сьвет апранае джынсавую вопратку. Апрануць джынсы, што можа быць прасьцей. Толькі апрануць джынсы. Кантрастным джынсу па канспэратыўнасьці зьяўляецца спалучэньне белага і чырвонага. У сучасных жорсткіх умовах такую каляровую гамму значна складаней вынесьці на вуліцы. Натуральна, што джынс прыходзіць на дапамогу. Яго апрынаюць адкрыта нават самыя заўзятыя канспэратары, толькі шматкі джынсавай тканіны пачалі лічыць рэвалюцыйнай. Існуюць меркаваньні, што джынс выціскае аўтэнтычны колер вольнай Беларусі, але з гэтым можна паспрачацца. Ён хутчэй дазваляе выказаць пазыцыю нязгоды, неабыякавасьці, гатоўнасьці для барацьбы больш шырокаму колу моладзі, якая не адважваецца актыўна ўдзельнічаць у змаганьні. Джынс зарабіў вялікі плюс тым, што любы юнак можа выказаць сваю грамадзянскую салідарнасьць.




На фоне каляровай разнастайнасьці нельга забывацца на сымболіку. За кожным сымбалем прыхаваны кантэкст і ідэал. У апошнім нумары часопіса "Arche" Сяргей Богдан трапна прыкмеціў: "Ідэалы — гэта ня доступ да вопраткі і фільмаў, ідэалы — гэта тое, дзеля чаго ахвяруюць, дзеля чаго салідарызуюцца мільёны. Ідэал — гэта калі нехта гатовы нават загінуць, каб прыкласьці дарогу іншым". Хочацца спадзявацца, што беларуская моладзь будзе адстойваць свой колер як непахісны ідэал.

Вось ты ідзеш на маладзёвую вечарыну ў джынсах, апранаеш белую кашулю з чырвонай палоскай, нацягваеш на вушы аранжавую шапку, вакол тваёй шыі разьвеецца блакітны шалік, ў руках пламянеюць ружы. Ты з гонарам ідзеш па вуліцы. Людзі праходзяць побач, яны ўжо добра разумеюць, што ты хочам ім сказаць.

Ты выбраў колер свайго змаганьня! Ты ведаеш, куды ідзеш!

*Яўген ШЫЛОВІЧ*

---

# "Погляд" – амэрыканскі погляд на Беларусь




16 кастрычніка летась прайшоў першы Дзень Салідарнасьці зь Беларусьсю ў ЗША. Адгукнуўшыся на змаганьне беларускага народу, праз месяц зьявілася грамадзкая арганізацыя "Погляд", створаная амерыканцам дзеля беларусаў. Сп. **Генры Джонсан**, заснавальнік і галоўны каардынатар "Погляду", пагадзіўся адказаць на пытаньні МБ.

**- Сп. Джонсан, як зьявілася ідэя арганізаваць "Погляд"?**

- Акцыя ў лістападзе стала першым крокам для нас. Потым сябры арганізацыі пачалі рассылаць электронныя лісты пра "Погляд" сваім сябрам і знаёмым. Наш пачатак быў такім-жа сымбалічным, як і Дзень Салідарнасьці, але для мяне гэта памятная падзея, якую я буду ўспамінаць усё жыцьцё.

Ідэя "Погляду" нарадзілася з размовы праз электронную сувязь "Скайп" зь беларускімі знаёмымі. Яны распавядалі пра сытуацыю ў краіне і падштурхоўвалі мяне да дзейнасьці. Адзін зь іх, Сяргей В., спытаў, што маг-бы зрабіць я сам, маючы такі клопатам аб Беларусі. Дыскутуючы аб адраджэньні апазыцыі, мы задумаліся, чаго не хапае цяперашняй апазыцыі, і што неабходна для посьпеху любой новай арганізацыі. Я выказаўся, што любой арганізацыі неабходны "погляд і напрамак". Так і знайшлася назва нашай ініцыятывы. На сёньняшні дзень, я лічу, апазыцыя мае малое дачыненьне да рэальнага жыцьця і не дае сапраўдную альтэрнатыву акрамя "анты-Лукашэнка". "Погляд" нарадзіўся як спроба прапанаваць беларускаму народу нешта іншае і дапамагчы захаваць надзею ў сэрцах беларусаў на свабоду, дэмакратыю і лепшае жыцьцё. Нашую місію бачым ва "ўсталяваньні свабоднага грамадзтва, міру і дэмакратычнага кіраваньня ў Беларусі праз незгвалтоўныя грамадзянскія дзеяньні".

**- Вы арганізоўвалі "Погляд" сваімі ўласнымі намаганьнямі ці з Вамі працавала каманда? Як актыўна Вам дапамагаюць непасрэдна беларусы?**

- Я каардыную большасьць дзеяньняў арганізацыі, тым ня менш "Погляд" ня быў-бы там, дзе ён зараз без намаганьняў шматлікіх людзей і арганізацыяў, якія падтрымлівалі нас апошнія шэсьць месяцаў. Нягледзячы на тое, што мы актыўна працуем у ЗША, "Погляд" найперш беларуская арганізацыя, таму галоўная дапамога ідзе непасрэдна зь Беларусі. Па прычыне бясьпекі я не магу назваць імёны тых, хто з намі супрацоўнічае. Адзначу толькі, што сябры нашай арганізацыі знаходзяцца ня толькі ў Менску, але і ў іншых рэгіёнах, ахопліваючы значную частку Беларусі. Актыўна працуем мы і тут, у ЗША, і таксама нашыя сябры ў іншых краінах. Мы выпрацоўваем пляны па галоўным накірункам нашай працы разам, часам цягам доўгіх гадзінаў абмеркаваньня. І зараз сетка падтрымкі нашай арганізацыі працягвае расьці штодзень.

**- Якой Вы бачыце ролю "Погляду" у прэзыдэнцкіх выбарах?**

- Я ведаю, што шмат людзей, асабліва на Захадзе, чакаюць сакавіцкіх выбараў з надзеяй, што адзіны кандыдат ад апазыцыі Аляксандар Мілінкевіч зможа стварыць сытуацыю, падобную да той, якая была на Украіне падчас "памаранчавай рэвалюцыі". Гэта было-б цудоўна, але разьлічваць на хуткі сцэнар не атрымліваецца, асабліва, калі такія чаканьні былі марнымі ўсё апошнее дзесяцігодзьдзе. Краіне патрэбна стратэгічнае плянаваньне і канцэнтрацыя агульных намаганьняў. Гэта адная з прычынаў, чаму "Погляд" рупліва праце над фармуляваньнем сваёй Хартыі Вялікай Стратэгіі і Дзеяньня. Мы разглядаем сакавік не як "вырашэньне" праблемы, а хутчэй як "пераломны момант" для нацыі. Не хачу, каб мяне няправільна зразумелі. "Погляд" жадае перамогі адзінаму кандыдату, але, са свайго боку, Лукашэнка даў добра зразумець, што не дапусьціць у Беларусі ўкраінскага сцэнару. "Погляд" не грунтуе сваю працу на кароткатэрміновай плятформе. Мы жадаем Мілінкевічу посьпеху, але аднасачасова разглядаем і магчымасьць ягонай паразы.

Мы плянуем шэраг мерапрыемстваў у сакавіку. Дэманстрацыі пройдуць 16-га сакавіка ў Дзень Салідарнасьці ў Вашынгтоне, Чыкага, Украіне і Грузіі. Нашаю мэтаю ў гэтых акцыях зьяўляецца паказ сапраўднай сытуацыі ў Беларусі ды мабілізацыя дзеяньняў замежных краінаў у дачыненьні да Беларусі. Падчас мінулай дэманстрацыі да нас далучыліся кангрэсмэн Тадэус МакКотэр і амбасадар Славакіі ў ЗША. Нашыя наступныя акцыі павінны прыцягнуць яшчэ большую колькасьць удзельнікаў як з Капіталія, так і з іншых краінаў. Сярод іншых мерапрыемстваў будзе запальваньне агеньчыкаў ў амэрыканскіх унівэрсытэтах, публічны паказ дакумэнтальнай стужкі "Дзікае паляваньне" пра зьніклых у Беларусі. 19 сакавіка мы арганізоўваем экзыт-пол і паралельны падлік галасоў каля беларускай амбасады ў Вашынгтоне.

**- Вы казалі пра доўгатэрміновую накіраванасьць "Погляду". У якім накірунак Вы будзеце працягваць працаваць?**

- Мы будзем працягваць маніторынг сытуацыі ў Беларусі. У гэтых межах ідзе праца над узнаданаю вышэй Хартыяй Вялікай Стратэгіі і Дзеяньняў "Погляду". Цягам некалькіх тыдняў у Беларусі зьявіцца штотыднёвы інфармацыйны памфлет, прысьвечаны пытаньням дэмакратыі, правоў чалавека, а таксама беларускай гісторыі й культуры.

Тых, хто зацікаўлены ў супрацоўніцтве з "Поглядам", або проста цікавіцца нашай арганізацыяй, прапануем наведаць наш вэб-сайт або пісаць на адрас: ***poglyadinfo@gmail.com***.

*Гутарыла Дамініка КНЯЖНІНА*

Жыў-быў на сьвеце чалавек.

Але не... спачатку пра краіну...

Жыла-была на сьвеце краіна.

Нмнога сабе такая краіна, ня горшая за іншыя. Усяго было ў ёй уволю: і паесьці хапала, і апранучца, і гарады й вёскі ладком так збудаваныя. Адна толькі дзіўнаватасьць была ў краіны: ня ведала яна вайны. ...Як-як? Ну, не было. Вось-жа й такое на сьвеце бывае. І што казаць, бо жыла-ж тая краіна дзесь за морамакіянам, дый апошні мушкет гадоў шчэ так са дзьвесьці таму там і стрэліў — на гэтым і ўсё. Ня ведалася, не варажылася жыхарам тае краіны, у кашмарных снах ня бачылася, як прыходзіць у твой дом злыбяда, пускае з дымам хату тваю, змардоўвае дзетак, адбірае апошні зыбытак... Усе гэткія страхалюдзтвы, калі й здараліся на сьвеце, то ўсё недзе так далёка,там, за акіянам.

Сумна-ніякавата стала жыхарам краіны: няма што ўспомніць... унукам расказаць... казачку якую страшную нанач... каб за душу брала. Асабліва пісьменьнікам пакута: жывога матар'ялу не хапае.

Але й тое не бяда — сталі думаць-выдумляць, жарсьці сабе фантазіраваць: дзеля забавы, бач. Жанр новы прыдумалі: "тррыллер" называецца — гэта на іхнай мове, калі аж да дррыжжыкаў! І пайшлі-паплылі з бачынак кніг дый кінаэкранаў усялякія пачвары, монстры, вампіры — народ палохаць-забаўляць.

А вось тут і той чалавек.

Пачытаў-пачытаў ён тыя кніжкі, паглядзеў тыя фільмы, і стала яму неяк маркотна: "І чаго гэта вам, людцы добрыя, дык добра не жывецца? Скуль-жа ў галовах вашых фантазіі такія буйныя?" Бо што сказаць... быў-жа-ж той чалавек там не тамтэйшы, а зь 'іншай краіны прыехаўшы. Ажно з тае краіны, што без усялякіх табе фантазіяў таптаная была перетаптаная ботамі чужнікаў-монстраў, крываньку чыю стагодзьдзямі пілі прышлыя вампіры-"вызваліцелі". На свае вочы пабачыў той чалавек, яку хату тваю зьдаваюцца двуногія пачвары... Вось так сумна-крыўдна яму зрабілася...

І вырашыў ён таксама напісаць. Ага. Чаму-ж не: у пакутах фантазіі курчыцца ня трэба — усе сюжэты ўжо гатовыя з роднага краю ёсьць.

І ня тое, каб яму хацелася славы. А толькі карцела яму зьвярнуць увагу ўсяго сьвету: калі ўжо хочацца вам чытаць жудасьціцкі-жахіскі, не шукайце вы ў галовах сваіх хваравітай фантазіі — а зазірніце лепей у краіну Беларусь а першай палове 40-х, дзе скурчвала, наматвала на сьпіралю пекла сапраўдныя людзкія жыцьці вайна.

...От такая забава там была...



*Пісьменьнік Кастусь Акула. Канец 1960-х гадоў.*

Што-ж, узяў дый напісаў ён пра гэта. Напісаў на мове таго народу, сярод якога й прышлося яму хавацца ад тых кашмараў.

Трэба сказаць, што, напэўна, стаў пачынальнікам новага жанру, хаця сам пра гэта й ня думаў. Бо жанр той пачаў набіраць сілу гадоў са дваццаць пасьля, назву займеў — "чарнуха". Праўда, у адрозьненьне ад сучаснай тутэйшай "чарнухі" раман Кастуся Акулы "Заўтра — гэта ўчора" на парадак вышэйшага духоўнага гатунку: ні аўтар, ні ягоная гераіня, перажыўшая усе пакуты пекла, не губляюць веры ў Бога. І хаця — а можа, і таму што — прыняўшы на сваё цела й душу іспыты й катаваньні, бяруць на сябе права спрачацца зь ім па пытаньнях помсты, усё-ж не пакідаюць у сабе веры ў Ягоную справядлівасьць.

Засталося толькі дадаць, што раман К. Акулы "Tomorrow Is Yesterday" стаў у Канадзе бэстсэлерам 1968 году.

***Ірына ВАРАБЕЙ***

*У хуткім часе плянуецца выдаць раман "Заўтра – гэта ўчора" на беларускай мове асобнаю кнігаю. Пераклад зрабіла аўтарка гэтага ўступу.*

*Прапануем увазе чытачоў урывак з гэтага раману.*




# Ч. Нападзеньне ў пуні

Прайшло ўжо пяць тыдняў з тае ночы, як Ваня Калпакоў пастукаўся ў іхную хату. Кажнае начы, позна, Марыя пракрадалася па лесе, каб занесьці ежу жаўнеру ў лесьнічоўцы. Прыходзілася быць вельмі пільнай, каб хаваць свае паходы ў сакрэце. Вакола было поўна пагалосак аб іншых і параненых, і здаровых дэзэрцірах. Адылі, погудкі ды пагалоскі нікому тут не абыходзілі. Шулаўцы былі занятыя зьдзяйсьненьнем і ўкараненьнем "новага парадку". Яны ўзялі калгасную зямлю на прыватныя надзелы й рупіліся аб іх.

Само распалажэньне вёскі забясьпечыла шулаўцам выгадныя месцы ў партэры перад працэсам гісторыі. На ўсход рэгулярна праходзілі па чыгунцы, што была адразу за гасьцінцам, цягнікі і з людзкімі рэсурсамі, і заладаваныя ўсялякім вайсковым рыштункам і амуніцыяй. У зваротным накірунку пайшлі шпіталёвыя цягнікі, запоўненыя параненымі. Па гасьцінцу зашыбавалі тысячы ботаў і такія-ж тысячы босых ног. Даўгія, шэрыя калёны савецкіх ваеннапалонных — схудзелых, галодных, змучаных, добра апранутых ці ў лахманах, здаровыя ці параненыя — цягнуліся на захад. Эўрапейскія і азіяцкія расейцы, беларусы, украінцы, армяне, узьбэкі й таджыкі, грузіны й казакі, калмыкі й буряты — усе нацыянальнасьці зь зямляў, каляніzаваных Масквою былі шырака прадстаўленыя ў гэтым людзкім моры.

Яны адмовіліся праліваць далей сваю кроў дзеля абароны крамлёўскага дэспата, але пазьбегнуўшы Сцылы, апынуліся ў сьмяротных абдымках Харыбды. Канваіраваныя добра ўзброенымі, адкормленымі жаўнерамі і вялізнымі аўчаркамі, тыя, хто на сілах быў працягваць свой шлях на Галгофу, змучаныя й зьнясіленыя, — былі застрэленыя. А мясцовае насельніцтва было змабілізаванае капаць ямы і хаваць іх.

Ніколі раней тутэйшыя не былі сьведкамі такой зьверскай брутальнасьці перад сваімі-ж парагамі. Сталінскія жахлівыя каты былі хапалі свае ахвяры з ложкаў пасярод ночы, а гэтыя так званыя вызвольнікі не рабілі нават аніякіх спробаў закумуфляваць сваё зладзейства. Нават найстарэйшыя шулаўцы, як-бы глыбака не капаліся ў сваёй памяці, нязлдольныя былі прыгадаць такога, каб людзей адпраўлялі ў магілы настолькі адкрыта жорстка, не па-людзку, перад усімі, хто за гэтым наглядаў.

Усьведамляючы адказнасьць за дагляданага ёю параненага, Марыя малілася, каб хутчэй надыйшоў той дзень, калі-б жаўнер мог ладна акрэпнуць, каб пайсьці. Ейным-жа дзецем таксама была патрэбная увага і клопат, дый і школа магла зноў адкрыцца ўвосень. Яна спадзявалася, што ёй прапануюць вярнуцца да сваёй папярэдняй працы. Вядома, ніхто не сказаў-бы зараз, што новыя гаспадары намерваюцца рабіць у галіне адукацыі. Далёкі цяпер фронт уяўляў сабою поўную невядомасьць, бо сталінскі абяцаны "ответный удар", здаецца, не матар'ялізаваўся.

Аднаго дня Марыя зьезьдзіла ў Гарадок — мястэчка, што кіляметраў за дзесяць ад вёскі — у госьці да сваёй сяброўкі, настаўніцы Юстыны Мурашка. Сяброўства іхнае пачалося яшчэ ў Менску, у Пэдагагічным інстытуте, дзе яны абедзьве вучыліся да вайны, і працягнулася й надалей, бо школы, дзе яны сталі працаваць, былі недалёка адна ад адной. Цяпер Юстына жыла бліжэй да цэнтру падзеяў і таму ведала навінаў больш, чым Марыя ў сваёй вёсцы.

Юстына расказала — і гэта мусіла быць з надзейных крыніцаў — што ў верасьні зноў адчыняцца школы з інструкцыямі і па-беларуску, і па-нямецку, і што ёсьць некаторыя людзі, што ўжо займаюцца праектам новай адукацыйнай сыстэмы. Напэўна, і Марыю паклічуць зноў у школу, заверыла Юстына.

Цяпер Марыя ўжо тысячны раз абдумвала дэталі таго, што дазналася ад Юстыны. Ад гэтага залежыла будучыня ейная і ейных дзяцей.

Аднаго дня яна ўзяла кошык і пайшла ў лес, як-бы па грыбы. Яна меркавала пабачыць Калпакова пры дзённым сьвятле й пераканацца, у якім ён урэшце стане, бо-ж ноччу яна не магла вызначыць, ачуняў жаўнер поўнасьцю, ці не. Трымаўся-ж ён, як зусім здаровы мужык. Часам, калі Марыя нахілялася бліжэй, каб глянуць на рану, ён хапаў яе рукамі й намагаўся зацягнуць на сена. Ёй ледзь удавалася вырвацца. Хлопец быў яўна галодны да любошчаў; і Марыя пару дзён таму падзялілася гэтым з маці.

— Ну, — прыжмурыла вочы Аксіньня, — можаш павіншаваць сябе: адкарміла ты яго, што ён кідаецца там, што той бык у стойле. А чаму табе не паглядзець на яго днём? Цалкам можа быць, што тое, што яму патрэбна зараз, дык гэта — баба, а ня нянька.

Маці затрымалася, падумала, пасур'ёзьнела:

— Маня, глядзі, дзеўка. Час такі, што толькі дэзэртыра нам у хаце не хапала.

Маціна папярэджаньне было разумным. Яна ведала сваю дачку. І ведала, што, калі яна дазволіць Калпакову зваблць сябе, іхнае жыцьцё ўскладніцца да немагчымасьці.

— Мама, не хвалюйся, — заверыла яе Марыя. — Я ўжо не дзіця.

Марыя выйшла на дзялянку й была цалкам зьбянтэжаная, бо тая выглядала зусім ня так, як уначы. Абломкі штабоў былой хаты лясьніка зарасьлі кустоўём, ляпніна ўсё яшчэ моцна трымалася на камянёх, што стварвалі некалі падмурак дома. Агню, пэўна, нішто не замінала, бо з драўлянага нічога не засталося. Збоку вытыркоўваліся разьгірэчаная печ ды іржавыя шкілеты двух жалезных ложкаў, моўчкі сьведчачы аб тым, што некалі тут было чалавечае жытло. Толькі сарока, уладкаваўшыся на вяршку касабокага ложка, патрэсвала хвастом зь цікаўнасьцю аглядаючы прышлага чалавека.

Хуткім позіркам Марыя акінула дзялянку, зазначыўшы сабе няўмольны наступ прыроды, і пайшла да пуні. Як сірата, пакінутая і самотная, пуня знайшла прытулак у цяні даўгіх, абвіслых галінаў старой бярозы. Збудаваная з моцных сасновых бярвеньняў, усярэдзіне яна была падзелена на дзьве часткі: канюшню й сховішча для сена.

Марыя асьцярожна пераступіла парог і ўперлася ў пустую капу сена.

# Нашая фанатэка

# Пра свабоду на поўную моц




"Песьні свабоды" – першы тэматычны рэліз новастворанага лэйблу "VoliaMusic". Гэтая выдавецкая суполка паўстала для рэалізацыі фанаграфічных праектаў, якія нельга ўявіць у каталёгах сёньняшніх падцэнзурных выдавецтваў. Таму і першы дыск прысьвечаны тэматыцы свабоды – філязофскай катэгорыі, пра якую нават і не згадваецца ў трэк-лістах выканаўцаў "дзяржаўнай папсы".

Дый сам гэты дыск, яго выгляд больш нагадвае нейкую напоўпадпольную вытворчасьць – фарбы і выявы на вокладцы спрошчаныя, скрынка дыска – у выглядзе капэрты амаль без выходных дадзеных. Толькі надпіс на вокладцы "не для продажу" сьведчыць, што перад намі альбом спэцыфічнага прызначэньня, тое, што называецца – "паслухаў, перадай іншаму". Да таго-ж, на інлэі самой крыжэлкі ёсьць шматабяцаючыя надпісы, кшталту: "Фанаграма прызначаецца для масавага праслухоўваньня. Капіяваньне дазваляецца толькі ў вялікай колькасьці. Публічнае узнаўленьне і перадача ў этэр вітаецца." Сапраўды, такой адкрытасьці не дачакаешся ад рэлізаў легальных камэрцыйных выдавецтваў...

Безумоўна, тэма свабоды – гістарычна найбольш распрацаваная беларускімі рок-музыкамі. Гэты выцякае зь пераемнасьці творчасьці рок-музыкаў ад высокіх і чыстых крыніцаў беларускай паэзіі мінулага – Купалы, Багдановіча, Караткевіча... І каб усё-ж спыніцца на найбольш вартых творах гэтай тэматыкі для новага дыску, выдаўцы прапанавалі слухачам, прыхільнікам беларускага року запоўніць адмысловую анкету, у якой трэба было адзначыць самыя вартыя творы, прысьвечаныя свабодзе, як неад'емнай часткі існаваньня чалавечай істоты. Вынікам гэтай працы стаў адбор дваццаці трох найбольш цікавых кампазыцыяў беларускай рок-музыкі на адзначаную тэму. Ад часу запаўненьня анкеты і да зьяўленьня гатовага прадукту – дыска "Песьні свабоды" – прайшло трохі больш месяца. Гэта, сапраўды, рэкорд для Беларусі! І ён па праву належыць лэйблу "VoliaMusic" і яго-наму таямнічаму прадусару Puper'у.

Што тычыцца музычнай праграмы дыска "Песьні свабоды", то яна распачынаецца кампазыцыяй гурту "Палац" "Сьпей мне". Гэты твор "палацаўцаў" – не зусім падобны да таго, што раней стваралі музыкі. Таму неспрактыкаваны слухач можа і не задагадцца пра тое, што гэта гучыць менавіта "Палац". Тым ня менш, іх песьня "Сьпей мне" – цікавая, хоць і не зусім чаканая, інтрадукцыя да праграмы дыска.

Разам з "Палацам" іншыя вэтэраны беларускай рок-музыкі прадстаўляюць на дыску свае песні, ў якіх выказваюцца разуменьне свабоды, як жыцьцёвай неабходнасьці. А гэта кампазыцыі гуртоў "Крама" ("Свабоды мне дай"), "Zet" ("Радзіма-Свабода"), "Нэйра Дзюбель" ("Беларусь перадусім"). Гэтыя песьні ўжо добра вядомыя слухачам, так як і самы знакаміты твор гурту "Ulis" "Радыё Свабода", што стаў своеасаблівай візытоўкай свабодных памкненьняў беларускіх рок-музыкантаў. Тое-ж можна сказаць і пра творчасьць знакамітай беларускай сьпявачкі Касі Камоцкай, дзьве песьні якой гучаць на гэтым дыску: "Мая краіна" і "Гэта мы", апошняя зь якіх выконваецца разам з гуртом "Новае Неба". Вельмі дарэчы тут падаецца і тое, што выдаўцы ўзгадалі творчасьць і знанага наваполацкага рок-гурту "Мясцовы час". Зіхатлівы голас-дыскант саліста Алеся Кузьміна – само ўвасабленьне свабоды й надзеі, што давала нацыянальнае Адраджэньне мінулых 90-х...

Да гэтых, безумоўна, вартых кампазыцыяў трэба аднесьці і вольныя сьпевы ад гуртоў "сярэдняй" па ўзросту плыні беларускага року – "Postscriptum", што прадстаўленыя песьняй "Вольныя танцы" ды рэп-суполкі "Нестандартны Варыянт", "IQ48" пад кіраўніцтвам Лявона Вольскага, якая выканала кавэр на кампазыцыю "N.R.M." "Паветраны шар". Дзякуючы пераасэнсаваньню тэкставай асновы гэтай папулярнай песьні, твор набыў ня меншую вартасьць, чымсьці арыгінал аўтарства Лявона Вольскага.

Рэпэрскую эстафэту ў адлюстраваньні свабоды й неабходнасьці яе адстойваць падхапілі маладыя выканаўцы з праекту "Партызанская школа" Нацыянальнага гуманітарнага ліцэю імя Якуба Коласа. У іх творы "Не" менш рэфлексыўнасьці, затое больш рашучасьці адстойваць правa на свабоду, права навучацца на роднай мове. Адчуваеш, што ім не на словах прыходзіцца ўступаць у змаганьне за свае ідэалы... Гэтая тэндэнцыя выразна назіраецца ў іншых творах маладых беларускіх выканаўцаў, прадстаўленых на дыску "Песьні свабоды".




*Салістка гурту "Зьмяя" Зоя Карaльчук і лідэр гурту "Нэйра Дзюбель" Аляксандар Кулінковіч выконваюць песьню "Беларусь перад усім" на адным з рок-канцэртаў у Менску. Фота аўтара.*

Асабліва падаецца тут вартай кампазыцыя "Брудная вада" магілёўскага гурту "Таварыш Маўзер" – мінулагодняга пераможцы фэсту "Басовішча". Не дзіўна, што гэтая песьня была колькі разоў пераможцам гіт-параду "Тузін Гітоў": яе мелёдыя, энэргетыка, экзыстэнцыяльная паэзія ствараюць незабыўны вобраз цяперашняй тутэйшай рэчаіснасьці, дзе месца для свабоды становіцца ўсе менш. Іншы вобраз свабоды – больш рамантычны, экзальтаваны – прадстаўлены песьняй "Ужо даволі", што прапанаваў на дыск гурт "Жаба ў каляіне". І хоць гэтая каманда за час свайго існаваньня здабыла сабе славу гратэскных выканаўцаў, гэты твор на верш Ларысы Геніюш гучаць вельмі арганічна і падкрэслівае высокую паэзыю і яе недвухсэнсоўны зварот да нашчадкаў.

Выдаўцы дыску з "VoliaMusic" таксама вырашылі не адставаць ад іншых выдаўцоў у пошуках талентаў і прадставілі дзьве навінкі – песьні ў выкананьні Easy Project з гораду Ліда "Нас не дагоняць", а таксама вольныя варыяцыі на лірыка-рэвалюцыйную тэму – "Чэ Гевара" гурту "Рэха". Абедзьве гэтыя кампазыцыі аб'ядноўвае рамантычны погляд на тэму рэвалюцыйнасьці. Музыкі першага праекту робяць гэта пад гімнападобныя рытмы і мэлёды Rammstein з выкарыстаньнем і пераасэнсаваньнем ў постмадэрнісцкім ключы штампаў моднай калісьці песенькі маскоўскага дуэту ТА-Ту. Іншая-ж кампазыцыя гурту "Рэха" пад кіраўніцтвам цёмнаскурага беларуса Такінданга – больш іранічнае асэнсаваньне справы камандантэ Чэ датычна беларускіх рэаліяў.

Сваю фарбу да эмацыянальнай палітры новага рэлізу дадалі маладыя беларускія экстрымалы з гуртоў "Зьмяя" і "Тарпач". Названыя кампазыцыі – гэта іхняе ўяўленьне пра тое, як хардкор-панк можа служыць вялікай справе пашырэння свабоды ў краіне і сьвеце. Ня гледзячы на нeверагодны рытм, напружаньне галасоў вакалістак Зоі Карaльчук ("Зьмяя") і Сьвятланы Сугакі ("Тарпач"), музыкі шчыра перадаюць слухачам свой боль і заклікаюць адстойваць свае перакананьні.

Бадай, адной з самых эмацыйных і кампазыцыйна завершаных песень альбому "Песьні свабоды" слухачы, упэўнены, назавуць твор Зьміцера "Тодара" Вайцюшкевіча, што напісаны ім на вершы Уладзімера Караткевіча – "Дзе мой край" – сапраўдны гімн і клятва зрабіць нашу Беларусь шчасьлівай і вольнай, адстаяць родную мову, як пра гэта марыў сам паэт:

*Мы клянёмся табе баразной сваёй*
*першай на полі,*
*І апошняй ральлёй, на якую ўпадзем*
*у журбе,*
*Мы клянёмся табе, што ніколі,*
*ніколі, ніколі,*
*Так ніколі, мы ня кінем цябе!*

Сапраўды, вартая кода для такога незвычайнага для краіны, для ўсёй Эўропы выданьня...

А выдаўцы ўжо думаюць пра магчымасьць працягу названага праекту, бо тэма свабоды – невычарпальная як само жыцьцё...

*Анатоль МЯЛЬГУЙ, музычны аналітык*

# З гісторыі беларускіх гэбраяў

# Ландсманшафты – суполкі ўсходнеэўрапейскіх гэбраяў у Амэрыцы

## (канец XIX-га—першая траціна XX-га стагодзьдзя)

Беларуская і гэбрайская іміграцыя ў ЗША на пачатку 20-га стагодзьдзя адбываліся прыкладна з тых самых мясьцінаў і новапрыбылыя людзі асядалі ў тых-жа мясьцінах, у Нью Ёрку, Нью Джэрзі ды іншых гарадох усходняга ўзьбярэжжа ды Мід-Ўэсту.

Ландсманшафты — суполкі выхадцаў з гарадоў і мястэчкаў Усходняй Эўропы, якія ядналі людзей з дадзенай мясцовасьці, што апынуліся на чужыне ды імкнуліся захаваць памяць пра старую краіну, а таксама дапамагчы адзін аднаму.


The Hebrew Sheltering and Immigrant Aid Society

presents this certificate to

United Smolewitz Ass'n

who has enlisted in the cause of the homeless Jews of the world by helping HIAS to:

- Link Americans with their families in other lands;
- Transmit assistance to Jews abroad from their more fortunate kin;
- Find havens of refuge for the oppressed and the persecuted;
- Guide the homeless across borders and seas to new homes in new lands;
- Aid the new immigrants in establishing new homes.

"He who preserves one soul saves the World."

*Пасьведчаньне, выданае ГІАС Смалявіцкаму гэбрайскаму ландсманшафту.*

Ландсманшафты выхадцаў з Усходняй Эўропы ўзьніклі ў другой палове 19-га стагодзьдзя, а з пачаткам масавай гэбрайскай іміграцыі з Расейскай імпэрыі ў 1880-я гады іх колькасьць стала павялічвацца. І кожная больш-менш лічэбная грамада выхадцаў з пэўнага гораду ці мястэчка імкнулася стварыць сваю арганізацыю. Першымі закладаліся асацыяцыі выхадцаў з большых местаў, такіх як Вільня, Варшава, Менск, Адэса, Гомель, Віцебск. Затым ішлі такія мясьціны, як Беласток, Берасьце, Горадня, Магілёў, Пінск, а тады Клецак, Валожын, Слуцак, Барысаў... У выніку амаль уся геаграфія Беларусі адлюстроўваецца ў назвах арганізацыяў. Сёньня цяжка сказаць з пэўнасьцю, колькі гэбрайскіх арганізацыяў выхадцаў зь беларускіх земляў існавала ў Амэрыцы, але дакладна вядома, што лік ішоў на сотні.

Праз ландсманшафты разам з тым адбывалася інтэграцыя імігрантаў у амэрыканскае грамадзтва. Самая структура большасьці гэтых суполак была збудаваная на дэмакратычных прынцыпах роўнасьці, выбарнасьці й справаздачнасьці. У гэтым яна розьнілася ад алігархічнай структуры гэбрайскіх традыцыйных арганізацыяў, і канспіратыўных радыкальных партыяў, да якіх належалі ці зь якімі мелі дачыненьні шмат хто з прыбылых. Амаль усе ландсманшафты забясьпечвалі матар'яльныя выгоды для сваіх сяброў, уключаючы мэдыцынскае страхаваньне, падтрымку на выпадак хваробы й страты працаздольнасьці, крэдыты, забесьпячэньне пахавальных працэдураў. У часы, калі у Амэрыцы не існавала сыстэмы сацыяльнага забесьпячэньньня, і хвароба або няшчасны выпадак ставілі чалавека на мяжу эканамічнай катастрофы, прыналежнасьць да ландсманшафтаў адыгравала значную ролю ў жыцьці кожнага іміграната.

Пры ландсманшафтах ствараліся фонды дапамогі па старасьці, дапамогі на выпадак прымусовага высяленьня, нават страйкавыя фонды, калі аказвалася дапамога страйкуючым рабочым з дадзенага лансманшафту. Напрыклад, Ашмянскае таварыства выдаткавала для страйкуючых сябраў у 1926 годзе $1500, вельмі значную суму на той час. Цікава, што некаторыя таварыствы мелі ў статуце адмысловы запіс аб выключэньні з сваіх шэрагаў за страйкбрэхерства.

Значную ролю ў дзейнасьці ландсманшафтаў адыгрывала культурная праца. Арганізацыі шанавалі сваю мову, ідыш, на якой вялося справаводства, выдаваліся статуты, сувэнір-часапісы, альманахі, кнігі памяці. Кожны ландсманшафт у Нью Ёрку распаўсюджваў тэатральныя квіткі ідыш-тэатраў з Другой Авэню, што было значнай крыніцай прыбытку як ландсманшафтаў, так і тэатраў. Адпаведна шмат п'есаў у рэпэртуары адлюстроўвалі тэмы эміграцыі, уладкаваньня на новай зямлі. Таксама крыніцамі прыбыткаў былі бэнэфіт-вечарыны й выданьне сувэнір-часапісаў, звычайна прымеркаваныя да круглых юбілеяў стварэньня таварystваў. У часапісах друкаваліся зацемкі пра гісторыю і кіраўніцтва арганізацыяў, зьмяшчалася і рэкляма фірмаў, што ахвяравалі грошы на правядзеньне юбілейных сьвяткаваньняў. Некаторыя выданьні адрозьніваюцца высокім мастацкім узроўнем, з успамінамі пра мясьціны бацькаўшчыны, фатаздымкамі, вершамі і г. д. У залежнасьці ад тыпу ландсманшафту праводзіліся лекцыі, дыспуты, ад рэлігійных тэмаў, казаняў рабінаў да сіянізму, ад пытаньняў прафсаюзных да гігіены й аховы здароўя.

У 1902 годзе прадстаўнікі ландсманшафтаў у Нью Ёрку зарганізавалі Гэбрайскае Іміграцкае Дапамаговае Таварыства, ГІАС (Hebrew Immigrant Aid Society, HIAS), што існуе і сёньня, і займаецца дапамогаю новапрыбылым імігрантам.

Ад раньніх часоў імігранты-беларусы мелі кантакты з сваімі гэбрайскімі землякамі, вядомыя выпадкі, калі прыклад суседзяў-гэбраяў наводзіў беларускіх сялянаў на думкі аб пошуку лепшай долі за акіянам. На новым месцы таксама існавалі сувязі, а часам — і ўзаемадапамога паміж гэбраямі й беларусамі. Вядомы, напрыклад, такі выпадак з Аляксандрам Гаркаві (1863-1939), родам з Наваградку, выдатным асьветнікам і лексікографам ідыш. Ён быў аўтарам ідыш-ангельска-ідыш слоўнікаў, што перавыдаюцца дасюль, а таксама браў актыўны ўдзел у жыцьці гэбрайскай дыяспары з Усходняй Эўропы ў Амэрыцы. Адзін час А. Гаркаві быў прадстаўніком дапамаговай арганізацыі ГІАС пры Іміграцыйнай станцыі на Эліс-Айленд, і там ён стаў сьведкам таго, як група, як тады пісалі па-ангельску, "рускіх мужыкоў з Паўночна-Заходніх губэрняў" Расеі, была затрыманая і прызначаная да дэпартацыі дзеля браку грошай у суме 25 даляраў, неабходных для ўезду ў ЗША. Варта адзначыць, што гэтую групу з 55 чалавек складалі ніхто іншыя, як беларусы, што ў сілу вядомых прычынаў не былі рэгістраваныя пад сваім нацыянальным імём, а зваліся расейцамі. А. Гаркаві вызваўся падпісаць гарантыйныя паперы за землякоў, і прасіў за іх перад Камісарам па іміграцыі. Калі ў прытулку ГІАС для іх не знайшлося месца, Гаркаві зьняў для іх пакоі на Баўэры, і пасьля яны змаглі знайсьці працу і стаць на ногі. Калі адзін зь іх меў няшчасны выпадак, Гаркаві прасіў перад ГІАСам аб выплаце рахунку са шпіталя, што было зроблена. Праз два гады да Гаркаві зьвярнулася расейская імпэрская амбасада ў Вашынгтоне. Аказалася, што тыя сяляне ў лісьце на бацькаўшчыну паскардзіліся на адсутнасьць перакладчыкаў і прадстаўнікоў для расейскіх падданых на Эліс Айленд. Прадстаўнік іхняй мясцовасьці ў Думе падняў гэтае пытаньне, і тая пастанавіла выдатвоўваць штогод 20 тыс. рублёў на прыём імігрантаў з Расейскай імпэрыі ў Нью Ёрку. На гэтыя грошы быў заснаваны прытулак і аплочваўся прадстаўнік на Эліс-Айленд. Цікава, што асобным пунктам Дума пастанавіла выдаткоўваць штогод 6 тыс. даляраў на расейскіх падданых юдэйскага веравызнаньня, і гэтую суму меркавалася перадаваць у ГІАС. Пасьля адмысловага сходу й доўгіх дэбатаў ГІАС паставіў адхіліць прапанову ўраду дзяржавы, якая лічылася непрыяцелем гэбраяў.


CONSTITUTION

OF THE

SCHKLOVER INDEPENDENT BENEVOLENT ASSOCIATION

Founded the 5th day of November, 1892

NEW YORK

This constitution was read for the third time and was adopted at a special and general meeting and went into force at the meeting on the 3rd day of September, 1932.

קאנסטיטוציאן

פון דער

שקלאווער

אינדעפענדענט
אונטערשטיצונג
פעראיין

*Статутныя дакумэнты Шклоўскага ландсманшафту, заснаванага ў 1882 годзе.*

Пазьней, у 1910-я гг., беларуска-гэбрайскія кантакты ў Нью Ёрку мелі месца ў прафсаюзнай сфэры, беларусы-актывісты Ўладзімер Татарчык і Сьцяпан Бубешка імкнуліся зарганізаваць як беларускіх, так і гэбрайскіх землякоў. У наступныя дзесяцігодзьдзі беларусы спрабавалі ствараць свае арганізацыі, не выключана, пад уплывам землякоў-гэбраяў, і карысталіся памяшканьнямі ландсманшафтаў для правядзеньня сваіх імпрэзаў.

З прыняцьцем антыіміграцыйнага заканадаўства напачатку 1920-х гадоў прыток новых імігрантаў рэзка скараціўся. Большасьць імігрантаў сталі на ногі, а іхныя арганізацыі сталі выконваць новую дадатковую функцыю — дапамагаць землякам у разбураных Першай сусьветнай вайною гарадох і мястэчках, змагацца з хваробамі і галечай. На грошы таварystваў купляліся харч і абсталяваньне, непасрэдна былі перасланыя мільёны даляраў. Часам для дапамогі ствараліся адмысловыя арганізацыі. Ландсманшафты бралі ўдзел у стварэньні арганізацыі "Джойнт", і пасьля супрацоўнічалі зь ёю. Яны кіраваліся ў сваёй дзейнасьці амэрыканскім сэнсам не-партыйнага прагматызму ды імкнуліся давесьці гэта да ідэалягічна й арганізацыйна падзеленых гэбрайскіх грамадаў ва Ўсходняй Эўропе. Прыклады адданасьці былі шматлікія. Нялёгкія прыгоды перажыў эмісар Ваўкавыскага Дапамаговага Таварыства (Wolkowysker Relief Society) Гары Нахімаў. У 1920 годзе ён выехаў зь Нью Ёрку ў Ваўкавыск, але пачалася Польска-савецкая вайна, і з абсаджанай Саветамі Варшавы Нахімаў падаўся ў Вільню праз Данцыг і Коўна. Ля Вільні ён быў арыштаваны, пад Беластокам затрымаўся з-за эпідэміі тыфу. Праз 16 тыдняў з часу выезду з Варшавы і з дапамогаю Чырвонага Крыжа яму ўдалося дабрацца да Ваўкавыску, дзе Нахімаў разьмяркаваў каля 55 тыс. даляраў, сабраных ландсманшафтам у Нью Ёрку. У ягоны гонар у мясцовай сынагозе адбылося адмысловае сьвяткаваньне і набажэнства. На наступны год Г. Нахімаў яшчэ раз наведаў Ваўкавыск з дапамаговай місіяй.

Іншыя арганізацыі таксама былі актыўнымі. Аб'яднаны Берасьцейскі Фонд (United Brisker Relief), што меў філіі ў розных гарадох ЗША, сабраў за некалькі месяцаў 1920 году 80 тыс. даляраў, і пераслаў кур'ерамі ў Берасьце. Пазьней было сабрана яшчэ 110 тыс. даляраў, зь якіх 30 тысяч адмыслова пайшлі на дапамогу малым мястэчкам у ваколіцах Берасьця.

Лансманшафты дапамагалі землякам і ў Савецкай Расеі, Беларусі, Украіне, супрацоўнічалі з АРА і Джойнтам. Але ў Саветах разьмеркаваньне дапамогі было пасьпяховым толькі на 50%, у параўнаньні з 95% для іншых краінаў. Камуністычныя ўлады бачылі ў гэтай дапамозе канкурэнцыю свайму валадарству, і сяброў мясцовых разьмеркавальных камітэтаў арыштоўвалі. У 1920 годзе Саветы адчынілі ў Нью Ёрку офіс сваёй арганізацыі "Ідгэзком", імкнучыся

**Заканчэньне на бач. 15**

# Сьв. пам. Сьцяпан НАУМЧЫК
## (31.03.1933 – 27. 02. 2006)



Беларуская грамада ў Саўт-Рывэры, Нью-Джэрзі, страціла шматгадовага рупліўца на рэлігійнай і грамадзкай ніве, сьв. пам. Сьцяпана Наумчыка. На паніхіду, якую адправіў настаяцель царквы сьв. Еўфрасіньні Полацкай а. Майкл, прыйшлі таксама ў уніформах вэтэраны. Сьцяпан, які ў свой час адбыў службу ў арміі ЗША, належаў да арганізацыі амэрыканскіх вэтэранаў. Пасьля паніхіды адбылося традыцыйнае вэтэранскае разьвітаньне: былі прачытаныя малітвы ды пакладзеная ў труну сымбалічная кветка маку. Пахаваны нябожчык на парафіяльным могільніку ў Саўт-Рывэры. Разьлік вэтэранаў ушанаваў яго трохразовым залпам салюту.

За памінальнымі сталамі ў залі саўтрывэрскага Беларуска-Амэрыканскага Цэнтру ўспамінам пра сьв. пам. Сьцяпана Наумчыка падзяліўся ягоны даўгагадовы прыяцель і супрацоўнік сп. Міхась Сенька.

Нарадзіўся Сьцяпан у Беларусі, – прыгадаў ён, – у паўночнай частцы беларускага Палесься, у Заастравеччы. Зь сям'ёй Наумчыкаў я і мае пакойныя бацькі спаткаліся ў 1945 годзе ў беларускім лягеры Ватэнштэдт, дзе й пражылі амаль пяць гадоў у адным бараку ў сумесных памешканьнях. Сьцяпанаў бацька Іван быў удзельнікам Слуцкага паўстаньня 1920 году, маці звалася Пелагея. У лягеры Сьцяпан часу не марнаваў – вучыўся ў беларускай гімназіі, быў актыўным сябрам беларускага скаўтынгу.

У 1950 годзе сям'я Наумчыкаў прыехала ў Амэрыку й пасялілася ў Саўт-Рывэры. Сьцяпан знайшоў працу ў фабрыцы Джонсан-энд-Джонсан, дзе адпрацаваў 43 гады. У міжчасе быў пакліканы ў амэрыканскую армію, служыў у танкавых частках у Нямеччыне. Потым належаў да 214-га посту арганізацыі амэрыканскіх вэтэранаў. Быў актыўным сябрам парафіі царквы сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт Рывэры, шмат гадоў уваходзіў у склад парафіяльнага камітэту.

Пакінуў па сабе ў вялікім смутку жонку Марыю, зь якою пражыў 32 гады ды якая да апошніх дзён чульліва апякавалася сваім хворым мужам, сыноў Міхася, Аляксандра з жонкай Даўні ў Саўт-Рывэры, Івана ў Фларыдзе, дачку Сузэн і ейнага мужа Сіна ў Фларыдзе, брата Жоржа з жонкай Надзяй у Саўт-Рывэры ды сямёра ўнукаў і праўнукаў.

Сваё памінальнае слова сп. Сенька закончыў пажаданьнем: "Няхай яму сьняцца сны аб Беларусі, якую ён так шчыра любіў".

***Я. З.***

# Аб беларускіх пратэстантах у Англіі

***A relation of the distressed state of the Church of Christ, professing the protestant religion in the Great Dukedom of Lithuania, presented to the view of all compassionate Christians".*** **London, 1661. 6 бачынаў.**



A
RELATION
OF THE
DISTRESSED STATE
OF THE
Church of Christ,
PROFESSING
The Protestant Religion in the Great Dukedom of LITHVANIA,
Presented to the view of all Compassionate Christians.

Psal. XLI. 1, 2.
Blessed is he that considereth the Poor, the Lord will deliver him in time of trouble. The Lord will preserve him, and keep him alive, and he shall be blessed upon the Earth; and thou wilt not deliver him into the Will of his Enemies.

Lament. III. 52, 53, 54.
Mine Enemies chased me sore like a Bird, without cause. They have cut off my life in the Dungeon, and cast a Stone upon me. Waters flowed over mine Head, then I said, I am cut off.

LONDON,
Printed in the Year of our Salvation. 1661.

У 1661 годзе ў Лёндане была выдадзеная шасьцістаронкавая брашурка на ангельскай мове пад вышэй пададзенай назвай. У перакладзе гэта значыць: "Рэляцыя пра гаротны стан Царквы Хрыстовай, што вызнае Пратэстанцкую рэлігію ў Вялікім Княстве Літоўскім, пададзеная да ўвагі ўсіх спагадлівых хрысьціянаў." Аўтар брашуры Jan de Kraino Krainski (Ян дэ Краіно Краінскі).

У XVI і XVII стагодзьдзях, падчас Рэфармацыі, у Беларусі было шырока пашыранае пратэстанцтва, пераважна кальвінізм. Ён тады быў модным і да яго пераходзілі беларускія магнаты й шляхта. А пераходзячы з каталіцтва ў пратэстанцтва вернікі сустракаліся ня толькі зь неталерантнасьцю, але зь перасьледам з боку каталіцкага касьцёлу. Шмат магнатаў-пратэстантаў і пастараў (сьвятароў) шукалі дапамогі й спачуваньня ў пратэстанцкіх краінах Эўропы, у тым ліку і ў Англіі.

Ян дэ Краіно Краінскі, пратэстанцкі пастар, прыяжджаў у Англію два разы. У выдадзенай там брашуры ён пісаў: "Сьмяротная і крывавая трагедыя паўстала на прасторы Эўропы і працягваецца ўжо больш за сорак гадоў. Напусьцішы наймацнейшыя каралеўствы, народы і правінцыі адныя на другія, у канцы гэтая трагедыя дасягнула (і то зь вялікай жорсткасьцю, аб чым пазьней) і нашую Сармацкую зямлю, а потым найболей квітнеючае Польскае Каралеўства, а перадусім Вялікае Княства Літоўскае і правінцыі, якія належаць да яго. І было тады зьнішчана шмат цудоўных і людных вялікіх гарадоў, меншых мястэчак і безьліч вёсак, так што цяпер ужо і знакаў няма, дзе яны калісьці стаялі..."

Потым аўтар дэтальна апісвае страшэнныя зьдзекі, якія пацярпелі людзі (за выняткам праваслаўных) у ВКЛ з боку казакаў, пачынаючы ад 1648 году.

Пасьля гэтага аўтар брашуры апісвае напад Масквы на ВКЛ. Захопнікаў ён называе маскавітамі (Moscovites). Паводле яго, зьдзекі новых агрэсараў былі яшчэ страшнейшымі за казацкія. Дзеля прыкладу ўспамінаюцца мукі пастара Адрыяна Хылінскага. А ў месьце Галоўчын (Holowczyn) на долю пастара Славінскага выпалі сьмяротныя мукі. Акупанты палілі лясы, дамы, касьцёлы (а званы вывозілі да сябе), а "тых, хто быў здаравейшы й мацнейшы вывозілі ў няволь-ніцтва..."

Ян дэ Краіно Краінскі з жалем скардзіцца, што з кожным годам "наш край меў новага ворага". І чаго не пасьпеў зьнішчыць папярэдні вораг, наступны ужо зьнішчаў. Так у 1655 годзе быў напад Швэцыі на ВКЛ з боку Інфлянтаў, Курлянды й Барусії (Borussia)*. Дзеля таго, што швэды былі пратэстантамі, рыма-каталікі ў ВКЛ сталі яшчэ больш ненавідзець сваіх пратэстантаў.

Далей аўтар называе іншых ворагаў-акупантаў ВКЛ і Польшчы, гэта: князя Трансыльванскага, які ў сваім войску меў, акрамя мадзяраў і трансыльванцаў, таксама малдаванаў, валахаў, сэрбаў і другія ўсходнія народы, "якія прыйшлі зь вялікай надзеяй узбагаціцца нашым дабром і багацьцем..."

Пратэстанты ў ВКЛ цярпелі ня толькі ад зьнешніх ворагаў, але і ад сваіх суграмадзянаў, якія абвінавачвалі пратэстантаў ва ўсіх бедах.

Брашура заканчваецца наступным зваротам да вернікаў у Англіі аб дапамозе вернікам у ВКЛ: "Такія малітва й жаданьні тых людзей, якія ад імя Літоўскага касьцёлу паслалі сваіго пасланца да вас, і якія просяць ад іхняга імя. А ён, пасланец, быў відавочцам у шматлікіх месцах іх гаротнага стану і іх няшчасьця."

Копія гэтай брашуркі знаходзіцца ў St. John's College Library, Cambridge University, Англія.

Трохі аб Яне Краіно Краінскім (1630 – 1685 ці 1688). Быў ён сынам чэскага пастара Валянціна Грац'яна (Gracjan).Пад імём Ян Грац'ян жыў ён да 1643 году, калі зьмяніў імя на де Краіно Краінскі. У 1644-47 гадох быў на студыях у горадзе Франэкэр (Franeker) у Нідэрляндах. У 1660 годзе прыбыў у Англію, дзе пазнаёміўся з Багуславам Самуілам Хылінскім, які падыхтаваў пераклад Біблії на беларускую (літоўскую) мову. У Англіі Я. Краіно Краінскі выдаў вышэй апісаную брашуру і дамогся ад ангельскага караля Карла II (Charles II), каб той напісаў ліст-адозву да вернікаў з просьбаю аб дапамозе пацярпелым пратэстантам ВКЛ. Карл II такую адозву выдаў 12.07.1661 г. пад наступнаю назваю: "Charles the Second, etc. (Letters Patent for a general collection in the Churches throughout of England and Wales toward the relief of the Protestants in Lithuania, 12 July, 1661.)" У перакладзе гэта гучыць: "Карл II і г. д. (Адкрыты ліст у справе збору грошай у цэрквах па ўсёй Англіі й Валіі на дапамогу пратэстантам у Літве, 12 ліпеня 1661.)" Гэты ліст-адозва складаецца з адной бачыны й знаходзіцца ў Брытанскай Бібліятэцы ў Англіі.

Варта тут успомніць, што Багуслаў Хылінскі спадзяваўся, што выдаткі на пераклад Біблії будуць пакрытыя з гэтых збораў, але ў канцы так ня сталася.

Другі раз Я. Краіно Краінскі прыбыў у Англію ў 1664 годзе разам Мікалаем Мінвідам у справе "Біблії" і заканчэньня зьбіраньня грошай.

Памёр ён у 1685 ці 1688 годзе ў Вэнграве на Падляшшы.

***Міхась ШВЭДЗЮК, Англія***

* Аўтару артыкула не ўдалося ўстанавіць цяперашні назоў правінцыі Барусія. Такая зямля ёсьць у Нямеччыне, але яна ніколі не межавала з ВКЛ.

## ЛАНДСМАНШАФТЫ

***заканчэньне з бачыны 14***

атрымаць падтрымку й грошы ад ландсманшафтаў пад маркаю дапамогі. У радыкальным ідышскім друку яны пачалі прапагандовую кампанію, сьцьвярджаючы, што "Джойнт" ня можа эфэктыўна дапамагчы землякам на бацькаўшчыне, і што грошы, перададзеныя ў "Джойнт", ня дойдуць да мястэчак. Таксама "Ідгэзком" сьцьвярджаў, што харчовыя пачкі, адасланыя праз яго, не абкладаюцца падаткам. Калі гэтыя меры не спрацавалі, Саветы вырашылі пакараць ландсманшафты, што былі ляяльныя "Джойнту", блякавалі іхную дапамогу. Аднак, дзякуючы абвінавачваньням у савецкім ідышскім друку, што "Ідгэзком" быццам "зрабіўся філіяй гэбрайскага кагалу", гэтая агенцыя была ў 1924 годзе раптоўна зачыненая.

Некалькі гэтых абразкоў з таго далёкага часу даюць чытачу некаторае ўяўленьне пра значнасьць і маштаб дзейнасьці ландсманшафтаў.

Далейшая дзейнасьць ландсманшафтаў у часы Другой сусьветнай вайны і пасьля мусіць быць тэмаю асобнага артыкулу.

***Віталь ЗАЙКА***



***На здымку справа: раздача абедаў старым у Берасьці ў 1921 годзе, якую фінансавала Берасьцейскае зямляцтва ў ЗША.***

# СЬВЯТКАВАНЬНЕ

## 88-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі

*У гонар 88-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі аддзелы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Нью Ёрку і Нью Джэрзі супольна праводзяць сьвяткаваньне Дня Волі, якое адбудзецца ў*

## НЯДЗЕЛЮ 26 САКАВІКА

*ў Грамадзкай залі пры Саборы Сьв. К. Тураўскага па адрасу:*
**401 Atlantic Avenue, Brooklyn, NY 11217.**

*Пачатак а 1:00 папаўдні*

*У прагараме — урачыстая акадэмія, банкет і канцэрт, выступ спн. Валянціны Пархоменкі ў складзе трыё сям'і Казак.*

*Запрашаем усіх беларускіх людзей. Паведамляйце пра сьвяткаваньне сваім сябрам і знаёмым.*

# Зварот да вернікаў

Нам усім добра вядомая тая сытуацыя, што зараз склалася ў Беларусі.
Вельмі цяжкае становішча ў нашых людзей.
У краіне перастаў працаваць закон.
Людзі ня маюць ніякай абароны.
І бачна, што з кожным днём становіцца ўсё цяжэй і цяжэй.
Ёсьць толькі адная надзея — на Бога.
З такога становішча толькі Бог можа вывесьці людзей.
Ёсьць дэмакратычныя кандыдаты на пасаду прэзыдэнта.
Адзін зь іх просіць маліцца, а другі гаворыць: Бог з намі.
Давайце падтрымаем іх у малітвах нашых.
Маліцеся за Беларусь, за народ і за выбары.
Бог Усемагутны. Ён дапаможа.

*Беларускі вернік*

**Газэта "БЕЛАРУС"**

*бясплатна надрукуе кароткія аб'явы некамэрцыйнага характару, віншаваньні, запрашэньні, спачуваньні ды інш. Наконт разьмяшчэньня рэклямы кантактуйце рэдакцыю.*

# АБВЕСТКА

*Рашэньнем Рады Незалежнай Грамадзкай Камісіі па прадстаўленьні Старшыні БНФ сябра Рады НГК Зянона Пазьняка ўтвораная суполка НГК грамадзянаў Беларусі ў Нью Ёрку (ЗША) у складзе дзесяці асобаў:*

- Валеры Дворнік (старшыня)
- Уладзімер Цяліца
- Зьміцер Пракапенка
- Віталь Міхноўскі
- Васіль Кузьменка
- Яўген Унук
- Мікола Цімашэнка
- Анатоль Колбун
- Мікіта Агароднік
- Юры Крывенка

*Суполка дзейнічае з моманту ўтварэньня 5 сакавіка 2006 году.*

# ШУКАЮ

Віктара СЯНКЕВІЧА, супрацоўніка Радыё Свабода ў Мюнхэне. Апошні кантакт зь ім меў (тэлефонны) гадоў пяць назад. Ён ведамы беларускі гісторык, пісьменьнік, былы жаўнер афіцэрскай школы ў Менску ў 1943 годзе. Ягоная жонка, беларуска, ды ейны сын павінны быць дзесьці ў ваколіцы Сан Францыска.

Прашу, калі хто ведае што-небудзь пра іх, паведаміце рэдакцыю "Беларуса" ці мне па адрасу:

*Kastus Akula*
*57 Riverdale Ave.*
*Toronro, ON M4K 1C2*
*CANADA*

# АКЦЫЯ САЛІДАРНАСЬЦІ

## 19 сакавіка 2006 году

### Заклікаем усіх падтрымаць дэмакратыю і свабоду ў Беларусі!

**19 сакавіка 2006 году** ў Нью Ёрку адбудзецца акцыя салідарнасьці з дэмакратычнымі сіламі Беларусі. У гэты дзень там пройдуць прэзыдэнцкія выбары, вынікі якіх могуць быць сфальсыфікаваныя на карысьць дзеючага прэзыдэнта А. Лукашэнкі.

Рэжым, створаны Лукашэнкам, парушае дэмакратычныя свабоды, правы чалавека. Ён змагаецца супраць беларускай культуры і мовы, давёў краіну да міжнароднай ізаляцыі, стварыў у ёй атмасфэру страху. Гэты рэжым зьліквідаваў усе магчымасьці для выказваньня незалежнай думкі й свабоднай перадачы інфармацыі. Выбары, што могуць прынесьці перамены і паварот да дэмакратыі, апынуліся пад пагрозаю. Рэжым мабілізаваў усе рэсурсы на здабыцьцё любымі сродкамі неабмежаванага тэрміну прэзыдэнцтва для Лукашэнкі.

Таму дэмакратычным сілам Беларусі неабходная нашая падтрымка. Таму Акцыі салідарнасьці й падтрымкі пройдуць па ўсёй Беларусі, па ўсім сьвеце.

У Нью Ёрку акцыя пачнецца а **11-й** гадзіне раніцы каля штабкватэры ААН на **43-й** вуліцы і **1-й** Авэню. Затым а **12-й** папаўдні ўдзельнікі акцыі працягнуць яе каля будынку, дзе месьціцца Кансулят Рэспублікі Беларусь, на **3-й** Авэню паміж **44-й** і **45-й** вуліцамі. Пасьля **2-й** гадзіны папаўдні ўдзельнікі акцыі пройдуць маршам па **3-й** Авэню да прадстаўніцтва Беларусі ў ААН на **67-й** вуліцы.

**Калі ласка, далучайцеся да нашай Акцыі, паведамляйце пра яе сваякам і знаёмым.**

**Жыве вольная, незалежная, дэмакратычная Беларусь!**

### НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС" АХВЯРАВАЛІ:

Бел. Аб. у Паў. Аўстраліі. $ 300
Я. Сажыч ....130
У. Набагез ....100
А. Орса-Рóмано ....100
А. Варанцова ....90
К. Акула ....60
К. Ворт ....50
М. Грынчук ....50
Н. і Я. Запруднік ....50
Л. Кажан ....50
Т. Кананчук ....50
М. Сенька ....50
А. Сёмуха ....50
С. Шабовіч ....50
Х. Кажаневіч ....анг. ф. 20
В. Гойдзь ....30
В. Дворнік ....30
А. Колбун ....30
З. Левіт ....30
А. Маркевіч ....30
А. Мялькоўская ....30
Н. Ронжына ....30
С. Рошчык ....30
В. Станкевіч ....30
В. Страшкіна ....30
Я. Яновіч ....30
В. Едзіновіч ....20

Замір кветак на магілу Францішка БАРТУЛЯ:
Згурт. Бел. ў Вял. Брыт. ... 50
Л. Міхалюк ....20

Замір кветак на магілу Сьцяпана НАУМЧЫКА:
І. Ільчук ....50

Замір кветак на магілу Уладзімера ГІНЬКО:
Згурт. Бел. ў Вял. Брыт. ... 50

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае штомесячна:
*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне*
Сусьветнае сеціва: *baza-belarus.org*
Падпіска $30 на год.
Чэкі выпісвайце на BIELARUS

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published monthly by
*Belarusan American Ass'n, Inc.*
Subscription $30 yearly
Make checks payable to *BIELARUS*

Рэдагуе калегія.
Адказны рэдактар Марат КЛАКОЦКІ
Падпіска Сяргей ТРЫГУБОВІЧ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

Передрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.

Адрас для допісаў і кантактаў:
*BIELARUS*
*P.O. Box 3225*
*Farmingdale, NY 11735*
E-mail:
*hazetabielarus@att.net*
Сусьветнае сеціва:
*www.bielarus.org*
ISSN 1054-9455
Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.